PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (1902) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 25 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ШТО ЎЗДОЎЖ ДЗЯРЖАЎНАЙ МЯЖЫ?

Аб тым, якія цяжкасці, якія перашкоды чакаюць кожнага з нас, хто надумаецца паехаць за найбліжэйшую граніцу, нікому не трэба тлумачыць. А што і гаварыць пра бізнесменаў! Граніца паміж Польшчай і Беларуссю дзесяцігоддзямі была не столькі мяжой, колькі мурам, перашкодай у нармальных людскіх кантактах. Вынікам той жа палітыкі была цывілізацыйная пустка прыгранічных раёнаў па абодва бакі граніцы. Часы зьмяняюцца, хоць і не так хутка, як хацелася б. Незалежная Беларусь адкрываецца на заходніх суседзяў, а Польшча, асабліва яе бізнесмены, ды і ўрад, пачынаюць шукаць супольных інтарэсаў, якія прынеслі б выгаду абодвум бакам. І тут перашкодай стае незагаспадарава-

Працяг на стар. 3



**РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ.** На ростанях. *Фота Уладзіслава Завадскага*

## УЦЯЧЫ АД СВАБОДЫ

Калі хто хаця трошкі цікавіўся палітыкай, пэўна на працягу апошніх месяцаў патраціў усялякую арыентацыю ў тым, што дзеецца ў краіне. За што змагаюцца палітыкі, чаму ствараюцца новыя партыі, калі ўжо існуюць іх сотні, чаму ў Сейме гаворыцца пра нейкую херню, калі грамадства жыве зусім іншымі праблемамі? Такія пытанні ставяць людзі ў штодзённых размовах і штораз часцей такая гутарка канчаецца пажаданнем: „Каб ужо хутчэй хтосьці прыйшоў і ўзяў гэтую цэлую банду за морду”.

У грамадскай свядомасці пануе ўяўленне аб існаванні нейкіх злачынных сіл, чужых агентаў, камуністычных мафіяў, якія давялі гаспадарку да поўнага развалу, мільёны людзей да беспрацоўя і крайняй беднасці.

Паўсюдна чакаецца на гэтага Аднаго Справядлівага, які прыйдзе і пакарае зладзеяў, аферыстаў, здраднікаў і злачынцаў. Дэмакратыя стаміла грамадства і надаела яму, пакуль яшчэ нарадзілася. Паўстае спрыяльная атмасфера для адабрэння кожнай дыктатуры.

Уцёкі ад свабоды — гэта сіндром, які не адзін раз паралізаваў еўрапейскія грамадствы. Найбольш радыкальных дыктатараў у трыццатых гадах нашага стагоддзя падтрымоўвала амаль 99 працэнтаў насельніцтва краін, якімі яны кіравалі. Дыктатура мела аргументы, каб пераканаць грамадства, што з'яўляецца яна ўладай, якая дае працу, хлеб і справядлівасць. Яна дае! Чалавек неўзабаве сам пераконваецца, што ўсё, чым ён распараджаецца, мае дзякуючы камусьці, а не сабе і сваёй працы. Кожная таталітарная сістэма стварае сабе імідж справядлівага бацькі, які абараняе свае дзеці перад варожымі ордамі. Без ворагаў, сапраўдных ці прыдуманых, дыктатура трываць не можа. Іх існаванне апраўдвае гвалт, беззаконне, садызм і ўсялякія злачынствы. Усё ж гэта робіцца, каб бараніць „шчаслівую” большасць. Ворагам таталітарнай улады чалавек рэдка застаецца з уласнага выбару. Найчасцей аб гэтым вырашае за яго самая ўлада.

Дэмакратыя ў адрозненні ад таталітарызму мае такую прыкмету, што побач шавіністаў і шаленцаў могуць існаваць усе іншыя — сацыялісты, лібералы, цыклісты і масоны. Права дазваляе гаварыць усім і амаль усё. Але кожны рашае сам пра тое, што хоча і што можа сказаць. Калі адзін заклікае да злачынства, апраўдвае гвалт, другі можа пратэставаць супраць гэтаму. Дэмакратыя стварае шанц абароны таму, што не закрывае нікому вуснаў. Вымагае яна аднак вялікай цярплівасці, памяркоўнасці і безупыннай гатоўнасці да кампрамісаў. Народы, якія выраслі ў кругу сялянскай культуры, а гэта без выключэння цэлая ўсходняя Еўропа, прывыклі да існавання нейкіх аўтарытэтаў, сімвалаў, усемагутнай

Працяг на стар. 2

# ГЕНУСЬ З „ГРАМАДОЙ”

**РАЗМОВА З ГЕНАДЗЕМ ШЭМЕТАМ, КАМПАЗІТАРАМ**

*МІРА: - Генусь, ты ўжо трэці раз прывёз свой гурт на "Басовішча". У мінулым годзе вы запрапанавалі Беласточчыне тры свае касеты і "канцэрты" ў розных месцах - ад базараў цераз выступленні для дзяцей на "калоніях" да вёсачак на ўскраіне Белавежскай пушчы. Гучалі вашы песні па радыё, ведаюць іх усе. У гэтым годзе — тры новыя альбомы.*

**ГЕНАДЗЬ ШЭМЕТ:** - Захапіўся я музыкай, калі быў яшчэ малы: убачыў хлопчыка, які іграў на акардэоне. Як я яму зайздросціў, што ён мае інструмент! Як я дапякаў бацьку, каб і мне купілі акардэон! Не купілі, не было грошай. А потым купілі баян... Я пайшоў у музычную школу, потым - у менскую кансерваторыю. Цяпер - канчаю другі факультэт, кампазіцыю.

*- Акадэмічна-класічны магістр музыкі. Славуты Генусь, які піша лацінкай па-беларуску...*

- Як дайшоў я да мовы? Дапамаглі карані і мая бабка. Сустрэчы з ёю. Беларуская вёска летам, вёска Гноеў Хойніцкага раёна.

*- Хлопцы з "Грамады" ведаюць беларускую мову, нават Віталік Саламянчук, украінец, бубнач. Як паўстаў гурт, і ці адразу быў "Грамадой"?*

- Гэта было ў канцы лета 1988 г., пасля Першага Віцебскага фестывалю польскай песні. Выступалі там беларускія артысты, "прадстаўнікі Беларусі". А ніводнай беларускай песні!.. Потым склад "Грамады" мяняўся. У нашай справе трэба было быць фанатычна настроеным чалавекам. Я ім казаў тады: "Хлопцы, ніякіх грошай вам я абяцаць не буду, ні паездак за мяжу ці куды. Вазьміцеся за працу!" Хто вытрымаў, касьці прыйшлося выкінуць за ягоныя хітрыкі і несур'ёзны падыход да справы. Забаўка - забаўкай, але музыку іграць і на забавах - таксама мастацтва.

*- Кожны з музыкаў "Грамады" - прафесіянал. Жывяце ў розных гарадах - ты і Дзіма Іжохін у Віцебску, Віталік - у Менску, Ігар і Сяржук, твае браты - у Мазыры. Сабрацца на рэпетыцыі, на канцэрты, на запісы ёсць часам праблема. Але вы шчырыя хлопцы, аб'яднаныя музыкай. Ад чаго пачыналі?*

- Перш ігралі рок-н-рол. Выходзілі з лепшых традыцый класічнага рока. Паралельна запісалі "забавовыя" народныя песні, між іншымі вядомыя "Чычэры". Беласточчына ведае іх з нашай першай касеты. Гэта песні палешуцкага рэгіёна, песні майго маленства. Там людзі лягчэйшыя, - чарку падап'е, то й выкладзе табе ўсё, што ведае. Мы ездзілі на вяселлі, збіралі матэрыял, запісвалі. Потым гэта прыйшлося апрацаваць. Што цікава, што наша музыка ў традыцыі рока і блюза не пайшла, а "папса" - так, і нас цяпер усприймаюць як "папульярную каманду". Мы хутчэй пайшлі шляхам "Песняроў". Да такой музыкі, якую робяць "Песняры", мы яшчэ не дараслі; трэба яшчэ шмат працы, працы па дробязях, па форме, па якасці гучання. А з гэтым у нас цяжка, таму што кожны з нас заняты сваёй справай. Я сам мусіў бы кінуць навучанне ў кансерваторыі, працу ў тэатры, у музычным ліцэі, а Ігар - працу на заводзе...

*- У тэатры ты працуеш...*

- Дырыжорам тэатральнага аркестра Драматычнага тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску, загадчыкам музычнай часткі. Збіраю, яднаю віцебскіх музыкаў. Віцебск лічыцца правінцыяльным мястэчкам, хоць тут паўмільёна жыхароў. Опернага тэатра

Працяг на стар. 7



*Генадзь Шэмет за дырыжорскім пультам.*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

*На першую нараду Палітычнага кансультацыйнага савета (ПКС) сабраліся камуністы СНД у Мінску. Нарада праходзіла па старых бальшавіцкіх традыцыях — сакрэтна, без доступу журналістаў...*

*... ліпенскія пагадненні, падпісаныя беларускім урадам у Маскве — у прыватнасці, у галіне абароны, уцягваюць Беларусь у блокавую палітыку, што падрывае яе суверэнітэт. Даходзіць да абсурду. Паводле аднаго з пунктаў пагаднення, напрыклад, грамадзяне Беларусі могуць прызывацца на службу ў расійскую армію. Але ж закон аб грамадзянстве Беларусі выключае такую магчымасць, бо той, хто служыць у замежным войску, аўтаматычна пазбаўляецца грамадзянства!*

*... Беларусь не брала ўдзелу ў прынящці рашэння аб вывадзе савецкіх войск з краін Усходняй Еўропы і дамоўленасці пра іх перадыслакацыю ў Беларусь ні з кім не мае. Чаму ж тады будуюць новыя пасёлішчы для расійскай арміі па ўсёй рэспубліцы? Навошта нам чужое, па сутнасці, акупацыйнае, войска на нашай зямлі?*

*... Частка афіцэрства яшчэ думае, браць ці не браць прысягу на вернасць народу Беларусі. Унікальная з'ява! Ядуць наш хлеб, карыстаюцца ўсімі выгодамі, і не хочуць нам служыць!*

*(Літаратура і Мастацтва, 2.10.92)*

*... Я ўжо ведаю, чым завяршыцца „барацьба" за падпісчыка на 1993 год. Пальму першынства атрымае „ганар" нашай шматпакутнай дзяржавы — „Советская Белоруссия"...*

*... Што на нарадзе ўразіла асабліва? Гэта адсутнасць галоўнага атрыбута беларускасці — нацыянальнага беларускага сцяга. Не з'явіўся ён, на жаль, ні ў пачатку, ні канцы педагагічнай нарады. Ніхто пра яго так і не ўспомніў, як быццам яго і няма. А ў зале, між іншым, сядзела кіраўніцтва раёна. Ці заўважыла яно адсутнасць беларускага сцяга? Відаць, не, бо доўгі час сядзела яно пад сцягам чырвоным.*

*(Наша слова, 7.10.1992)*

Каб чытаць беларускія газеты — трэба не абы якой вытрымкі. Як кажуць, Białoruś to nie jest sprawa dla mięczaków.

* * *

*Z okrzykami „Polska dla Polaków", „Precz z Niemcami", „Precz z Żydami" przemaszerowała w sobotę przez centrum Wrocławia grupa około 100 skinheadów.*

*... Praska policja doliczyła się już dwóch tysięcy skinów i twierdzi, że ich liczba stale rośnie...*

*... nad Balatonem doliczono się 300—400 „prawdziwych" skinów i około 3 tys. sympatyków...*

*... Bułgarscy skini mieszkają głównie w Sofii...*

*... Skinheadzi w Rumunii nie są na razie ani zbyt liczni, ani zorganizowani...*

*(Gazeta Wyborcza, nr 240)*

Ідзем у Еўропу разам з іншымі...

* * *

*2 mln. 498,5 tys. bezrobotnych Polaków — 13,8 proc. osób czynnych zawodowo — figurowało we wrześniu w rejestrach biur pracy. Co trzeci zarejestrowany bezrobotny nie ma prawa do zasiłku. Prawie 44 proc. bezrobotnych szuka pracy od ponad roku.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 240)*

* * *

*... Grozi nam drugi najazd barbarzyńców, atak uzbrojonych, czy nawet nieuzbrojonych a zdesperowanych tłumów na granicy. Przed tymi uzbrojonymi trzeba będzie się bronić, przejście innych — choćby do Paryża — zorganizować...*

*... Polska rozpada się na dzielnice, nad którymi tracimy suwerenność...*

*... Niszczenie naszej substancji materialnej będzie przybierać na sile...*

*... Rozpada się też polski system edukacyjny...*

*... Czeka nas powrót chorób rodzących się z nędzy, brudu i głodu — zwłaszcza gruźlicy i tyfusu...*

*... 63% młodzieży w roku 1991 deklarowało chęć emigracji...*

*W sytuacji grożącego nam barbarzyństwa, w sytuacji gdy milionom ludzi w Polsce grozi osunięcie się z poziomu Polaków do poziomu materiału etnicznego, „podludzi" Europy — w tej sytuacji wojsko może okazać się ostatnią instytucją kulturalną Polski.*

*(Gazeta Polska, 4.10.92)*

## З мінулага тыдня

**Расея передала Польшчы** ксеракопіі дакументаў, якія пацвярджаюць, што аб расстрэле інтэрнаваных польскіх афіцэраў вырашыла Палітбюро ВКП(б). Сярод дакументаў, якія прывёз у Варшаву шэф камісіі дзяржаўных архіваў пры ўрадзе Расеі **Рудольф Піхоя**, знаходзіцца пастанова Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940 года расстраляць 14700 ваеннапалонных і 11 тысяч грамадзян польскай нацыянальнасці і пратакол з пасяджэння падпісаны **І. Сталіным , Л. Берыем, Л. Кагановічам, М. Калініным, В. Малатовым, А. Мікаянам і К. Варашылавым.** Р. Піхоя сказаў, што аб гэтых дакументах ведалі ўсе генсекі - ад Сталіна да Гарбачова.

**Міхаіл Гарбачоў** адкінуў абвінавачванні расейскага кіраўніцтва, паводле якіх нясе ён адказнасць за засакрэчванне праўды аб катынскай расправе. У інтэрв'ю для газеты "Камсамольская праўда" Гарбачоў сцвердзіў, што канверт, у якім знаходзіліся дакументы ў гэтай справе, адкрыў ён на некалькі гадзін да сваёй адстаўкі ў прысутнасці прэзідэнта Расеі Б. Ельцына і аднаго з былых сваіх саветнікаў. "Мы былі ашаломлены гэтымі страшнымі дакументамі. Мы ўсе ўтраіх згадзіліся, што не маем права скрываць іх і нашым абавязкам будзе перадаць іх палякам" - заявіў Гарбачоў.

**У Польшчы пабываў мэр сталіцы Рэспублікі Беларусь - Менска Аляксандр Герасіменка.** У Беластоку сустрэўся ён з прэзідэнтам горада **Лехам Руткоўскім.** Госць цікавіўся формамі працы тэрытарыяльнага самаўрада, функцыянаваннем камунальнай гаспадаркі і аховы здароўя, забеспячэннем, прыватызацыяй гандлю, продажам і арэндай камунальнай уласнасці і вынікамі супрацоўніцтва з Гроднам. Прадставіў ён спіс тавараў, якія можа прапанаваць Менск (перш за ўсё электратавары) за пастаўку харчовых прадуктаў. А. Герасіменка не скрываў, што сталіца РБ ахвотна наладзіць гаспадарчыя кантакты з беластоцкім бізнесам. Як да гэтай пары з Менскам актыўна супрацоўнічае **"Пронар" з Нарвы.** Узамен за цыбулю, бульбу, яблыкі прывязлі яны каля трох тысяч трактараў. Цяпер фірма рыхтуецца адкрыць мантажны цэх трактароў, якія будуць у нас прадавацца ў растэрміноўку. Неўзабаве ў Беласток прыедзе гаспадарчая дэлегацыя Менска.

**На кантрольна-прапускным пункце ў Кузніцы-Беластоцкай** Гранічная страж затрымала паляка і беларуса, якія намерваліся выехаць з Польшчы ў Беларусь на машыне "Пэжо 605". Аказалася, што гэтая машына прапала на тэрыторыі Францыі і ад 1 верасня г.г. шукаў яе Інтэрполь. На тым жа КПП польскія мытнікі вярнулі назад 141 грамадзяніна СНД за спробу ўвезці ў Польшчу 465 бутэлек спірту і 3700 каробак папярос. Для васьмі „турыстаў", якія вярталіся назад, мытнікі канфіскавалі 2090 долараў.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ШУШКЕВІЧ І КЕБІЧ — ВЕРНЫЯ „ЛЕНІНКАМ"

Пасля таго як з 1 кастрычніка дзяржавы Прыбалтыкі і Украіна ўвялі нацыянальныя грошы, Беларусі давялося прыняць тэрміновыя меры супраць рублёвай „інтэрвенцыі" з гэтых краін. З пачатку кастрычніка заробак на прадпрыемствах і ўстановах рэспублікі пачалі выдаваць толькі беларускімі грашыма, у народзе іх называюць „зайцамі". Больш таго, у прыгранічных з Латвіяй, Літвой і Украінай раёнах Беларусі ўсе тавары прадаюцца толькі за беларускія грошы.

І ўсё ж кіраўніцтва рэспублікі афіцыйна заяўляе аб намеры Беларусі не пакідаць рублёвую прастору. Зрэшты, інтэрвенцыя савецка-расейскіх грошай — „ленінак" — можа прымусіць і спікера беларускага парламента С. Шушкевіча і прэм'ер-міністра рэспублікі В. Кебіча ўсё ж аддаць перавагу „зайцам".

### ХТО ВЯЗЕ, ТАГО І ПАГАНЯЮЦЬ

Падобна на тое, што беларускі народ у каторы ўжо раз стаў ахвярай уласнай працавітасці і добрасумленнасці. Толькі за апошнія тры месяцы прадпрыемствы рэспублікі адправілі ў Расею прадукцыі на 67,2 мільярда рублёў. Старэйшая „сястра" заплаціла Беларусі толькі 29,6 мільярда рублёў. Астатнюю частку запазычанасці вяртаць не вельмі спяшаецца.

### ЗРАЗУМЕЛІ ЦЯПЕР, ЧАМУ З ВЫРАЮ ЖУРАВЫ НА ПАЛЕССЕ ЛЯЦЯЦЬ?

Больш за 200 нашых землякоў, што пражываюць у Эстоніі звярнуліся нядаўна ў Міністэрства замежных спраў Беларусі з просьбай прадставіць ім беларускае грамадзянства. Дарэчы, з такімі ж заявамі звярнуліся ў знешнепалітычнае ведамства рэспублікі і 16 тысяч грамадзян Ізраіля, якія ў розныя часы эмігравалі з Беларусі.

### ГЕНЕРАЛЫ БЕЛАРУСКАЕ ЭКАНОМІКІ ВЫЙШЛІ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

На мінулым тыдні ў Менску адбыўся ўстаноўчы з'езд новай палітычнай арганізацыі — Беларускага навукова-вытворчага кангрэсу. Новая партыя аб'яднала буйных прамыслоўцаў і бізнесменаў рэспублікі. Асноўная мэта кангрэсу — рынак, нацыянальная згода і незалежнасць Беларусі.

### КАЛІ НАРОД НЕ ІДЗЕ ДА КАМУНІСТАЎ...

Блок левых пракамуністычных сілаў, якія зусім нядаўна аб'дналіся ў Каардынацыйны камітэт, на мінулым тыдні заявілі аб змене назвы. Цяпер камуністы і іх сябры абралі назву „Народны рух Беларусі". Між іншым, Каардынацыйны камітэт быў створаны якраз у процівагу БНФ. Таму змена назвы гэтай арганізацыі пэўна таксама з'яўляецца своеасаблівай палітычнай акцыяй супраць Беларускага народнага фронту. Маўляў, і мы нічым не горшыя за БНФ...

### РАСПЛАТА ЗА ШТО?

На Беларусі „нафтавы" голад. Чэргі на аўтазаправачных станцыях расцягнуліся ў некаторых гарадах да 3 кіламетраў. То тут, то там успыхваюць аўтамабільныя бунты — аўтааматары перакрываюць дарогі, патрабуючы ад улад бензіну. Акрамя таго, з-за адсутнасці нафты спыніўся Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Заканчваецца сыравіна і ў Наваполацкіх нафтавікоў. Праўда, шукаць іншых нафтавых сяброў урад рэспублікі не спяшаецца, разлічваючы, відаць што старэйшая сястра ўсё ж злітуецца.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Праўда пра музей у Гайнаўцы.
* 1000-годдзе хрысціянства на Беларусі.
* Правакатары і беларусы.
* Як прадаць бульбу?
* Яшчэ раз „Басовішча".

## УЦЯЧЫ АД СВАБОДЫ

*Працяг са стар. 1*

улады. Калі не хапае цэнтра, які вырашае пра ўсё, людзі не ведаюць, што рабіць. Тады паўсюдна гаворыцца пра аферы, зладзействы, несправядлівасць. Не абазначае гэта аднак, што падобнага няма ў таталітарнай сістэме, але там пра ўсё, што брыдкае, не гаворыцца. Дыктатура ёсць больш справядлівая таму, што зводзіць усіх да ўзроўню аб'ектаў.

Народы, якія так доўга чакалі на дэмакратыю, вельмі хутка нацешыліся ёю. Аграмадны працэнт усходнееўрапейскіх грамадстваў гатовы аддаць свой лёс у рукі тых, якія будуць гарантаваць працу, хлеб і ўражанне парадку ды стабілізацыі.

Узамен забяруць яны толькі свободу .

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## ШАНОЎНЫЯ КАРЭСПАНДЭНТЫ "НІВЫ",

Атрымаў я ад Вас шмат лістоў з віншаваннямі з нагоды выбару на пасаду галоўнага рэдактара. Шчыра дзякую Вам за ўсе лісты і віншаванні і маю надзею, што таксама, як да гэтай пары, "Ніва" будзе ствараца пры Вашым удзеле. Яшчэ раз запрашаю ўсіх на нашыя старонкі.

Шмат хто з сентыментам успамінае колішнія штогадовыя з'езды карэспандэнтаў нашага тыднёвіка і заахвочвае мяне вярнуць старую традыцыю і арганізаваць чарговую сустрэчу. Мне гэта ідэя вельмі падабаецца і я сам асабіста з прыемнасцю пазнаёміўся б з людзьмі, якіх вельмі шаную, а ведаю толькі з допісаў. Аднак яшчэ пару гадоў таму назад галоўны рэдактар мог прынамсі вярнуць кошты падарожжа і пачаставаць гасцей гарбатай і пячэннем. Мне сорамна прызнацца, але сёння з'езд карэспандэнтаў гэта інвестыцыя якая зараз не пад сілу фінансавых магчымасцяў нашай фірмы. Магчыма, што ў бліжэйшай будучыні, калі паболыпым тыраж дык заплацім усе даўгі, зарганізуем з'езд карэспандэнтаў не толькі з кавай і гарбатай але і з келіхам шампанскага. Пакуль што нічога нам не астаецца, як толькі быць аптымістамі і рабіць разам з Вамі, дарагія карэспандэнты, штораз лепшую "Ніву".

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

Суперсэнсацыя!

## МЕСЦА МОЦЫ Ў... БЕЛАВЕЖЫ

Я некалькі разоў пісаў у „Ніве" аб незвычайным дубе, які расце ў Белавежы. Незвычайнасць яго заключаецца ў тым, што выпраменьвае ён нейкую энергію, якую вылоўліваюць уражлівыя людзі. Раней на дубе, у месцы па абрэзанай тоўстай галіне, паявіўся вобраз людской галавы, дык сёлета быў ён замаляваны. Усе гэты з'явы выклікалі ў апошніх двух гадах вялікую зацікаўленасць белавежцаў, жыхароў навакольных мясцовасцей, а найбольш — турыстаў. Я і д-р Сяргей Тарасевіч увесь час прабавалі растлумачыць загадку дуба. І хаця нам шмат што цікавае ўдалося ўстанавіць, найважнейшага ўсё ж мы не дасягнулі.

І, вось, нядаўна, развязка прыйшла, можна сказаць, сама. Але па чарзе!

Чытаючы верасьнёвы нумар месячніка „Nie z tej Ziemi" (таму, хто не ведае гэтага часопіса, паясняю, што ён прысвечаны растлумачванню розных таямніц, нязвыклых, паранармальных з'яваў і г.д.) натрапіў я на артыкул Лешка Матэлі — „Геаманцыя і месцы моцы". Пасля артыкула, мне ўсё стала ясна. Зразумела, не буду перадаваць зместу (артыкул даволі абшырны), спынюся толькі на найважнейшым.

Ужо ў даўніх часах шмат народаў Усходу лічыла Зямлю, так як і цела чалавека, жывым арганізмам. І ў адным, і ў другім, існуюць каналы пераплыву энергіі жыцця. Людзі спакон вякоў вышукоўвалі, пераважна інтуітыўна, такія ж месцы. Не інакш было і ў Еўропе. Ужо ў 20-тых гадах у Англіі прыкмечана, што шматлікія месцы культу размешчаны на простай лініі (спецыялісты зрабілі карту гэтых спалучэнняў на тэрыторыі ўсяе Вялікабрытаніі. Лініі назвалі „Ley Lines". І такая назва прынялася потым для абазначэння лінейнага праменявання, спалучаючага месцы канцэнтрацыі пазітыўнай энергіі прыроды, называныя таксама „месцамі моцы".

Тое, што старыя храмы і месцы культу знаходзіцца пераважна ў паласе спецыфічнага энергетычнага праменявання зямлі, або на скрыжаванні гэтых палос ці ўздоўж іх, даказаў зусім нядаўна, праводзячы даследаванні ў розных дзяржавах Еўропы, вучоны па прозвішчу Пурнер. Ён звярнуў таксама ўвагу, што алтары, а і часам амбоны, знаходзіцца ў месцах наймацнейшай канцэнтрацыі пазітыўнага праменявання ў даным раёне. Старажытныя будаўнікі ставілі сакральныя аб'екты ў такі спосаб, каб палосы пазітыўнага ўздзеяння ўводзілі свяшчэннікаў і вернікаў у адпаведны настрой, спрыяльны малітве і духоўнай працы.

Лешэк Матэля, на падставе сваіх васьмігадовых даследаванняў даказвае, што ў месцах асаблівай канцэнтрацыі пазітыўнай энергіі, якія называе месцамі моцы, выступаюць спецыфічныя з'явы, з якіх найважнейшыя — гэта надта павышаны ўзровень праменявання, геалагічныя скіды, якія акружаюць месцы моцы і крынічкі ў гэтых месцах, нярэдка з вадой з выдатнымі біяэнергетычнымі ўласцівасцямі.

І ўсё гэта выступае ў Белавежы ля таго ж дуба! Дуб, ці проста месца ля яго, мае павышанае праменяванне (а яшчэ кажуць, што тут калісьці быў язычніцкі „святы гай", значыць, месца культу!). Ёсць тут і геалагічны скід, а ў яго падножжы б'е ... крынічка! Як не глядзець, усё паказвае на тое, што тут знаходзіцца месца моцы!

Канчаткова ўпэўніла мяне ў гэтым змешчаная пры артыкуле карта, на якой вучоныя Ганчароў, Марозаў і Макараў пазначылі вядомыя ў Еўропе і паўночнай Афрыцы месцы моцы і спалучылі іх лініямі. Адна з ліній перабягае, як не глядзець, праз... Белавежскую пушчу! На тэрыторыі Польшчы найвялікшыя месцы моцы пазначаны нумарамі: 14 (Гнезна), 22 (Вроцлаў), 23 (Чанстахова), 31 (Кракаў). На лініі, якая перасякае пушчу і Белавежу, знаходзіцца Гнезна.




Пачалі мы з Сяргеем Тарасевічам задумвацца, ці на лініі энергіі, якая несумненна перабягае праз Белавежу, не знаходзіцца яшчэ нешта, што сведчыла б у яе карысць? Аказваецца, што на гэтай лініі знаходзіцца ў самой Белавежы два храмы — праваслаўная царква (пазітыўнае праменяванне ў ёй пацвярджаюць радыестэты і біяэнергатэрапеўты!) і каталіцкі касцёл. А калі пайсці далей па гэтай лініі, у напрамку Гайнаўкі, трапім на... Крыначку, у якой некалі была крынічка, якая мела... цудоўныя ўласцівасці!

Лешэк Матэля ў сваім артыкуле сцвярджае, што месцы моцы выступаюць таксама на Святой гары Грабарцы і ў Святой Вадзе, што каля Беластока.

Пра тое, што знаходзіцца яно таксама ў Белавежы, дагэтуль ніхто не ведаў і не дадумоўваўся. Мне і Сяргею Тарасевічу вельмі прыемна, што менавіта мы яго адкрылі.

Добра было б, каб белавежскае месца моцы абследавалі яшчэ спецыялісты. Калі б нам удалося „сцягнуць" у Белавежу Лешка Матэлю, напішу, што ён скажа ў гэтай справе.

**ПЁТР БАЙКО**

P.S.: Пілі мы з Сяргеем ваду з крынічкі, што выплывае ў падножжы ўзгорка з дубам. Яна мае спецыфічны смак, што паказвала б на знаходжанне ў ёй мікрачастак нейкіх мінералаў.

**П.Б.**

## ШТО ЎЗДОЎЖ ДЗЯРЖАЎНАЙ МЯЖЫ?

*Працяг са стар. 1*

насць прыгранічных тэрыторый, адсутнасць шырокай сеткі дарог, якія спалучалі б абедзве краіны, гранічных пераходаў, не гаворачы ўжо аб інфраструктуры для прымання шматлікіх гасцей. І вось з'явілася першая ластаўка змен на лепшае. Па прапанове ўрадаў абедзвюх краін справай загаспадарання прыгранічных раёнаў заняліся вучоныя - урбаністы. Яны атрымалі заданне даследаваць гэтыя раёны і даць сваім урадам канкрэтныя прапановы загаспадарання гэтых мясцін. На гэтай базе пачалося сталае супрацоўніцтва паміж Інстытутам прасторавай і камунальнай гаспадаркі ў Варшаве і Беларускім навукова-даследчым інстытутам праектавання і будаўніцтва ў Менску. Вясною гэтага года адбылася першая два семінары рабочых груп гэтых інстытутаў, а вось нядаўна, з 22 па 25 верасня ў Супраслі адбылася чарговая сустрэча. Гэтым разам вучоныя мелі ўжо за сабою шэраг даследаванняў, запрасілі таксама спецыялістаў з галіны прыродазнаўства, экалогіі і аховы помнікаў. Бо справа урбанізацыі ўсяго прыгранічча павінна быць разгледжана комплексна, глыбока, усебакова, а вынікі апрацовак стануць базай для будаўніцтва тут на дзесяткі гадоў. Вучоныя ўжо згодна сцвярджаюць, што першапланавай задачай сёння з'ўляецца павелічэнне колькасці гранічных пераходаў. Вельмі абяцаюча выглядае планаванае адкрыццё гранічнага перахода ў Баброўніках, месцы, якое знаходзіцца амаль на простай лініі Беласток- Менск праз Ваўкавыск. Плануецца таксама адкрыццё пераходнага пункта ў раёне Владавы - на поўдзень ад Брэста. Прыроднікі і экалагі звярнулі урбаністам увагу на яшчэ адну асаблівасць гэтага раёна. Амаль уздоўж польска-беларускай граніцы праходзіць водараздзел ледзь не галоўных еўрапейскіх рэк - адсюль бяруць пачатак Нарва і Буг, якія нясуць свае воды на захад у Віслу, Нёман кіруецца на поўнач, а прыток Дняпра - на поўдзень. Таму тое, наколькі чыстай экалагічна будзе наша тэрыторыя, будзе адчувальна ва ўсёй Еўропе. Вельмі важна таксама захаваць у як найбольш натуральным стане два унікальныя лясныя масівы - Аўгустоўскую і Белавежскую пушчы. Беларускі бок вельмі напорыста шукае шляхоў выхаду на Балтыку. Таму развязваецца справа выкарыстоўвання водных шляхоў праз рэкі і каналы да Віслы. Нагоду сустрэчы архітэктараў не маглі не выкарыстаць кансерватары архітэктурных помнікаў - у кулуарах яны шмат перагаварылі аб сістэме аховы сакральных аб'ектаў, палацаў, паркаў і іншых. Па абодва бакі граніцы засталася багатая спадчына абодвух народаў. Далейшая праца будзе працягвацца ў інстытутах Беларусі і Польшчы, а чарговы семінар запланаваны на канец кастрычніка. Як гаворыцца ў пратаколе, які быў урачыста падпісаны кіраўнікамі Праекта загаспадарання прыгранічных раёнаў, пад канец года будзе складзены рапарт для ўрадаў Польшчы і Беларусі аб стане працы і галоўных праблемах прыгранічных раёнаў. Ужо сёння вядома, што урбаністы будуць працаваць супольна найменш тры гады. У міжчасе плануецца канкрэтная рэалізацыя іх прапаноў. Беларускі бок ужо нават выдзяліў пэўныя сродкі на гэта. Адначасова з семінарам у Супраслі ў будынку Беластоцкай палітэхнікі была адкрыта выстаўка "Рэгіянальны агляд прапаноў прасторавага загаспадарання і будаўніцтва". Варшаўскія і беластоцкія архітэктары паказалі свае праекты, якія маглі б паслужыць ва ўрбанізацыі прыгранічных раёнаў. Да архітэктурных прапаноў далучыліся і беластоцкія вытворцы будаўнічых матэрыялаў і фірмы будаўнічых паслуг. Выглядае на тое, што як толькі будуць зацверджаны дзяржаўныя праекты прасторавага загаспадарання прыгранічных раёнаў, ды яшчэ дзяржавы задбаюць пра стварэнне адпаведных эканамічных умоў для ўваходу большага і сярэдняга капіталу, ды і дробнага бізнесу, прыгранічная паласа па абодва бакі дзяржаўнай мяжы хутка зможа ператварыцца ў высокацывілізаваны раён са шматлікімі месцамі працы для яго жыхароў.

**ЯНІНА ЧЭРНЯКЕВІЧ**

## КАНЕЦ ЛЕТА Ў СЕМЯНОЎЦЫ

21 верасня задумаў я паехаць на свята Раждажства Прасвятой Дзевы Марыі ў Юшкаў Груд. Там пабыў я ў царкве, памаліўся Прасвятой Дзеве Марыі і вырашыў паехаць на Семяноўскае вадасховішча, што за Бандарамі.

Над возерам быў я ўжо раней, 1 жніўня гэтага года. Столькі народу тады наехалася, на гэтае Семяноўскае "мора", што здалося яно мне зусім маленькім. Людзі плавалі на чым хто меў - не ўсе ж маюць лодкі. Пахадзіў я па беразе і заўважыў мноства рознага смецця - папераў, бутэлек... Чаго там не было! А не было там... туалетаў. Калі каму напрэ, то ідзі куды хочаш.

Я прапаную, каб нашыя гміны - Міхалоўская і Нараўчанская - падумалі, як зімою прыцягнуць сюды людзей. Ёсць тут такія месцы, дзе, калі замерзне вада, можна пакатацца на каньках і санчаках.

Другая справа - гэта амфітэатр. Ведаю, што ў нашых войтаў скупавата з грашыма, але калі б моцна хацець, дык можна было б сабраць грошы і пабудаваць невялікі амфітэатр. Летам можна было б там арганізаваць фэстыны. Прапаную войту Міхалоўскай гміны арганізаваць такія фэстыны супольна з БГКТ. У гэтай гміне беларусаў не менш, чым на Гайнаўшчыне, толькі з Беларускага таварыства ніхто імі не цікавіцца. А варта было б падумаць, як ажывіць тутэйшых беларусаў.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## НА МЯЖЫ

### ЧАСТКА XV

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Значная колькасць размоўцаў лічыць, што ідэі палітычнай свабоды ў Польшчы пярэчыць тое, што кіруючыя чыннікі, прыступаючы да перабудовы палітычнай сістэмы ў краіне не адклікаліся і не адклікаюцца да рэферэндуму. Паводле гэтых асоб урад або Сейм павінны былі аб'явіць усенароднае галасаванне ў справе апрабаты для ідэі пераходу ад сацыялізму да капіталізму. Саракагадовы гаспадар так выказваецца на гэту тэму:

„Не згаджаюся з вамі, што ў нашай сітуацыі пераход ад сацыялізму да капіталізму стаўся канечнасцю і што німа ў гэтай справе трэцяе дарогі. А ад каго ў канцы канцоў павінны залежаць такія важныя справы, як змена цэлае сістэмы ў панстве? Па-моему ні ад Сейму, ні ад жонду, а толькі ад усіх людзей, каторы жывут у панстві. Я помню, што ў восемдзесятым року ўсе салідарнасцявы дзеячы гаварылі, што яны за сацыялізмам, і што толькі трэбо яго паправіць і палепшыць. Ну то хто ж быў бы проціў такого дзеяча? Пэўно, што трэбо было его паправіці і таму ў Польшчы аж так много людзей паддзержало „Салідарнасць". І ведомо, што часто праводзіцца ў розных краях галасаванні ў даволі ірундовых справах, бо жонды хочут ведаць, якая воля людзей. У нас, тым часам, ніведомо калі і каму прышло ў голаў, што патрэбны нам ні сацыялізм, але капіталізм. Ці то ўжэ калі такая мысль прышла камусь у мазгаўню, то трэба было абавязково аб'явіці галасаванне і спытаць усіх людзей, чы яны хочут такое змены, чы ні хочут. То скажэце вы мне, чом жонд або Сейм не спыталі народу, чаго ён хочэ, а чаго ні хочэ. А ўсё ж так і ні спыталі. У Заходняй Еўропе у ўсіх народоў будут пытаці, чы яны хочут быці ў адном еўрапейскім гасударстві, чы не хочут быці. І гэто правільно. А ў нас што дня трубят, што польскі народ будзе шчаслівы, бо хутко ўвойдзе да еўрапейского дому. А можэ я ні хочу быці ў гэтом еўрапейском домі, так як ні схацелі ў ім быці дунчыкі і ні ведомо, чы схочут быці французы.

То чаму ж гэто жонд дунскі і французскі пытают сваіх абываталёў, чаго яны хочут, а нас ніхто не пытае? Я хачу дэцыдаваці за сябе, а ні хачу, каб за мене пастанаўляла якаясь лахудра! А вы мне гаворыце, што моў, сегодня ў нас поўна палітычна свобода. Дзе яна, пытаюсе? Я галасаваў бы за тое, каб было так, як было, ну можэ не ва ўсім. Ніхай там сабе былі б розны партыі, чы больша, чым дагэтуль была, прыватна ініцыятыва. Але ў ніякім выпадку ні хацеў бы, каб сталі ў нас прыватны школы, каб за плёмбу ў зубі трэбо было плаціць дзвесце тысяч. Каб ні трэбо было плаціць за касцюм тры мільёны злотых, значыт, два парщукі! Не хацеў бы! Я перастаю ўсё гэта панімаць. Мы выбіралі сваіх паслоў і галасавалі тут на гэту левіцу дэмакратычну. А яны — што? Таксамо паступают і „Салідарнасць", так і гэты КПН, усе яны сталі адзінакавымі. Чом гэто яны не сказалі „ні маем права дэцыдаваць за народ"? Трэба яго спытаці, чаго ён хочэ. Ніхто нікого і не думае пытаці. Яны ведают, што народ хочэ прыватызацыі, што народ хочэ капіталізму і хочэ як найхутчэй быці ў Еўропе. Я там нідзе ні хачу быці, кроме свае вёскі і свое краю. Паехаці — оўшым, але жыці буду там, дзе ад вякоў жылі мае продкі. Так што ні трэбо тут так гаварыці, што маем поўну свабоду. Ні вельмі яна поўна, калі хтось за мяне у Варшаві дэцыдуе, як я павінен жыці".

Мушу прызнацца, што аргументы майго размоўцы моцныя і няма ім чаго супрацьставіць.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БАЛАХОВІЧ

*/Заканчэнне, пачатак у 37 н-ры/*

### У АДСТАЎЦЫ

Няўдача восеньскага паходу 1920 г. не вырашыла канчаткова лёсаў Беларусі. 15 тысяч балахоўцаў у польскіх лагерах надалей можна было скарыстаць дзеля мілітарнай акцыі. У лютым 1921 года Балаховіч арганізаваў сустрэчу прадстаўнікоў Беларускага палітычнага камітэта і „Зялёнага дуба" дзеля падрыхтоўкі да партызанцкай вайны ў Беларусі на выпадак польска-савецкай вайны. Да гэтага часу прадугледжвалася фарміраванне з балахоўцаў рабочых батальёнаў. Была таксама магчымасць, што Польшча ўсё-такі возьме сабе Беларусь падчас мірных перамоваў у Рызе. Наогул, большасці беларускіх палітыкаў здавалася гэта амаль пэўным. Прэм'ер-міністр ковенскага ўрада БНР Ластоўскі прапанаваў міністру Васілеўскаму падтрымку польскіх прэтэнзій на Беларусь узамен за аўтаномію. На антыбальшавіцкі бок абяцаў таксама перайсці Аляксандр Чарвякоў, беларускі эксперт савецкай дэлегацыі, які прадстаўляў у Рызе інтарэсы мінскага рэўкома. Паколькі палякі надта ж Беларусі не хацелі, справа скончылася нічым. З гэтай пары паланафільства не мела ў беларускім руху ніякага сэнсу: рады прыхільнікаў Польшчы пачалі раставаць як снег на сонцы (з усходу).

Яшчэ ў 1921 г. Балаховіч супрацоўнічаў з Луцкевічам, Тарашкевічам, Ракам-Міхайлоўскім і іншымі беларускімі дзеячамі, аб'яднанымі ў Беларускі дзяржаўны камітэт, які неўзабаве распаўся, а большасць яго сяброў пачала антыпольскую дзейнасць. У палове гэтага ж 1921 г. расейцы з гэтак званага Саюза абароны радзімы і свабоды, фактычна савецкай агентуры, ліквідавалі ў Лунінцы штаб „Зялёнага дуба", што вельмі аслабіла магчымасці супрацьдзейнічаць росту бальшавіцкіх уплываў у Заходняй Беларусі. Правадыры „Зялёнага дуба" ўтварылі, пры падтрымцы Балаховіча і на польскія грошы, новую арганізацыю Беларускіх беспартыйных актывістаў, але вялікіх поспехаў не дабіліся.

Балаховіч меў, зрэшты, у тым самым часе вялікія клопаты з польскімі ўладамі, бо пад канец 1921 г. міністр Домбскі, дамовіўшыся з савецкім паслом Караханам, узяўся высяляць Балаховіча з Польшчы. Даведаўшыся аб гэтым ад сяброў, Балаховіч паспеў надрукаваць і распаўсюдзіць у Сейме адкрыты ліст, у якім абараняў свае пазіцыі. Справа закончылася страшэнным скандалам і падзеннем Домбскага.

Балаховіч мусіў думаць пра хлеб таксама як і пра палітыку і стараўся забяспечыць быт сваім жаўнерам. Большасць балахоўцаў-беларусаў вярнулася з лагераў дахаты, частка эміграваласа ў Аргенціну, дзе закладалі пазней беларускія таварыствы, але расейцам не было дзе дзявацца. Балаховіч пасяліў іх у Белавежы, Гайнаўцы, Нараўцы. Адгэтуль і ўзялося на Беласточчыне перакананне, што балахоўцы гэта расейцы.

Балахоўцам часта прыходзілася адбівацца ад беларускіх партызан (між іншым ад атрада Скамароха ў Белавежскай пушчы), якія рыхтаваліся да антыпольскага паўстання. Правадыром гэтага паўстання эміграцыйныя палітыкі бачылі... бацьку Балаховіча. Паколькі быў ён адзіным сапраўдным беларускім камандзірам, арганізатары паўстання прабавалі намовіць яго да сваёй справы просьбай і грозьбай.

Балаховіч публічна раскрыў планы паўстання, дакараючы яго арганізатараў у тым, што хочуць заліць Заходнюю Беларусь крывёю дзеля камуністычных інтарэсаў. Пагразіў ён таксама асабіста Тарашкевічу, што будзе з ім змагацца ўсімі сіламі.

Камуністы таксама не спалі ў шапку. У 1924 г. удалося ім забіць у Белавежы Юзіка Булак-Балаховіча. Замах быў падрыхтаваны і на Станіслава, пры дапамозе браканьераў — палякаў, якім было сказана, што трэба забіць Балаховіча, бо ён „кацап". Толькі крывавы канец камуністычнага паўстання ў Эстоніі ў 1925 г. ацвярозіў заходнебеларускіх палітыкаў.

У 1926 г. абярнулася кола гісторыі

*Працяг на стар. 8*

# ГЛУХАЯ ЎЛАДА

Што мае рабіць малая шэрая чалавечына, калі ёю валодаюць глухія ўраднікі — дэцыдэнты? Я не маю на ўвазе ўраднікаў з варшаўскіх вярхоў, няхай іх „аформіць" пан Гедрайць. Мне хопіць сваіх з горада Беластока, якіх я выбіраў і плачу на іх падатак, а яны, быццам заваражаныя, маўчаць, калі я дамагаюся, каб мне нешта растлумачылі. Няхай яны мяне нават кампраметуюць, калі паводле іхняе, урадніцкай гордасці, дамагаюся чагосьці свайго беспадстаўна.

Дзесьці летам, скардзіўся я ў адной з беластоцкіх газет на тое, што за месца пад гараж ад сакавіка 1992 г. я плачу 150 тысяч злотых у месяц, калі яшчэ ў мінулым годзе плаціў 30 тысяч. Прасіў я намесніка прэзідэнта горада, панію Эву Боньчак-Кухарчык, каб адказала, за што плачу даніну ў пяць разоў большую, чым у мінулым годзе, калі мая пенсія не ўзрасла нават на пяць працэнтаў. Маўчок да сённяшняга дня працягваецца (пішу гэта 5.X.1992 г.).

Другая справа — гэта нашыя гарадскія аўтобусы, якія ўнутры натапыраныя вострымі цвікамі. Аднойчы, уваходзячы ў адну такую павозку, схапіўся я рукой за вертыкальны стручок, каб не ўпасці і прабіў сабе далонь. Віну за гэта зваліў на сваю нязграбнасць і маўчаў, гоячы рану. Другі раз, калі аўтобус лініі „15" раптоўна шарпануў (было гэта 22 жніўня б.г.), я ўпаў ізноў спіной на такі ж прут з дзвюма вострымі шрубамі. Парваў кашулю, а справа гэтая на мінулым тыдні ўжо гучала і на хвалі беластокага радыёвяшчання. Проста ўсе па-крусельску маўчаць, бо ведаюць, што не знайду спосабу на іхнюю хітрасць, і ўрэшце перастану „даходзіць свайго".

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**




### ГІСТОРЫКІ — КРУЦЯЛІ?

Васіль Петручук („Ніва", н-р 40) стараецца апраўдаць савецкую гістарыяграфію, крытыкуючы пункт гледжання польскіх гісторыкаў, якія ў тэлебачанні выказаліся аб рашучай ролі амерыканскай дапамогі ў вырataванні ўсходняга фронту.

Я не бачыў гэтай кінахронікі, якую паказвалі 7 верасня і аб якой дыскутавалі гісторыкі, але пра амерыканскую дапамогу саветам ведаю няімала.

Каб не гэтая дапамога, савецкая перамога ў вайне была б няпэўная. Хаця за Уралам прадукавалася шмат узбраення, аднак галодныя салдаты мала вартыя, а свіная тушонка была не менш важнай, чым вінтоўка. Не ўспамінаю тут пра амерыканскія самалёты і грузавікі на ўсходнім фронце, якіх таксама было там нямала. Савецкія ўлады ацанілі гэтую дапамогу на 8 працэнтаў усіх сваіх выдаткаў, а амерыканцы пішуць пра 20. Праўда, што Савецкі Саюз плаціў золатам і іншымі каштоўнасцямі, але ці гэтым можна накарміць салдат?

І самае асноўнае — амерыканцы і англічане, якіх саветы лічылі ворагамі, ад самога пачатку пайшлі з імі на супрацоўніцтва. Цікава, што было б, калі б, напрыклад, немцы занялі палову Англіі.

Саветы аддавалі сваё золата за пшаніцу яшчэ перад вайной, а вінавытыя ўсяму гэтаму не амерыканцы, а калгасы — твор савецкай сістэмы.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

### ІНФАРМАЦЫЯ

**У нашай рэдакцыі можна купіць наступныя выданні:**

1. „Кругавая чара" Яна Чыквіна (цана 20.000 зл.)
2. „Самасей" Сакрата Яновіча (20.000 зл.)
3. „Віры" Георгія Валкавыцкага (20.000 зл.)
4. „Родны схоў" Віктара Шведа (5.000 зл.)
5. „Маці і сын" Л.і Ю. Генюшаў (20.000 зл.)
6. „Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie" ks. Grzegorza Sosny (30.000 zł)
7. „Kościół prawosławny na Białostocczyźnie w ocenie władz II Rzeczypospolitej" (15.000 zł.)
8. „Podróż daremna. Szkice o poezji białoruskojęzycznej w Polsce" Teresy Zaniewskiej (20.000 zł)
9. „Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi" Jerzego Turonka (40.000 zł)

Літаб'яднанне „Белавежа" высылае свае выданні па пошце. Заказы можна накіроўваць у нашу рэдакцыю.

# ГІСТОРЫЯ СЯМЯЦІЦКАГА ПРАВАСЛАЎНАГА ПРЫХОДА

*/пачатак у 41-42 н-рах/*

З хвілінай вяртання бежанцаў у 1918-1920 гадах парафіяльнае жыццё паступова прыйшло ў норму. Сямяціцкі прыход атрымаў статус штатнага прыхода і сваёй духоўнай апекай далёка распасціраўся па-за граніцы прыхода. Народ гуртаваўся вакол сваіх храмаў і ў меру сваіх матэрыяльных магчымасцей стараўся ўпрыгожваць іх. Красамоўнай прадметнай ахвярай жыхароў вёскі Крупіцы было Распяцце Хрыста /Галгофа/. У 1936 г. Сямяціцкі прыход налічваў 5914 чалавек, з чаго 589 жыло ў Сямяцічах, а рэшта - у 24 вёсках.

У міжваенны перыяд прыход меў 60 гектараў зямлі, у тым ліку: пад пасяленнем - 3 гектары, могільнік - 1 гектар, зямлі ворнай - 40 гектараў, сенажацяў - 6 гектараў, у вёсцы Слохі - 4 гектары, а таксама 6 гектараў лесу ў Каянцы.

У часе ваенных падзей 1941 г. вялікія страты пацярпелі таксама жыхары прыхода. У днях 25 і 26 чэрвеня ў Вольцы над Бугам забіта 12 чалавек, Слохах - 48, Клекатове - 19. Дзве апошнія вёскі былі спалены. Нямала было забітых і ў іншых мясцовасцях.

У першых гадах народнай улады на тэрыторыі прыхода наступіў міграцыйны рух. У 1945-1946 гадах частка беларусаў выехала ў СССР. Эвакуацыя гэта адбылася згодна з міжнароднымі дагаворамі, але немалую ролю адыграла тут дзейнасць узброенага падполля. Баявыя дружыны гэтага падполля тэрарызавалі беларускае насельніцтва, прымушаючы яго выехаць з Польшчы. У гмінах Кляшчэлі, Вышкі і Бранск яны спалілі некалькі вёсак і забілі нямала людзей.

У выніку выезду ў СССР і перасялення на Заходнія землі, лік праваслаўных жыхароў прыхода ў першыя гады пасля II сусветнай вайны значна зменшыўся. У 1952 г. Сямяцічы сталі сядзібай улад новастворанага павета. І гэта спрыяла як развіццю горада, так і павелічэнню колькасці яго жыхароў. Павелічэнне гэтае было вынікам не толькі натуральнага прыросту, а, галоўным чынам, рэзультатам міграцыі вясковага насельніцтва ў горад. Такім спосабам павялічылася таксама колькасць прыхаджан. Сёння іх лік ацэньваецца на каля 4,5 тысячы. Яны жывуць як у саміх Сямяцічах, так і ў навакольных вёсках.

Змены, якія адбыліся ў горадзе, не абмінулі таксама прыхода. Намаганнем духавенства і прыхаджан адміністрацыйныя і гаспадарчыя будынкі захоўваюцца ў адпаведным стане. Свяшчэннік ліквідаваў агульнадаступны для жыхароў горада праезд, перасунуўшы гаспадарчыя будынкі і пасадзіўшы фруктовыя дрэвы.

На сотую гадавіну царквы, якая выпала ў 1966 г., царква была памалявана і прыкрыта цынкаванай бляхай. Сям'я Кузьмюкоў і Кашэўнікаў падарыла поўны камплект літургічнага начыння. З нагоды юбілею ўрачыстае набажэнства служыў варшаўскі мітрапаліт Сцяпан.

Па меры сваіх магчымасцей прыцаркоўны пляц агарадзілі драцянай сеткай, а жылыя дамы адрамантавалі. Царкоўнае брацтва падарыла гроб Божай Маці з саванам. Гроб быў выкананы скульптарам-аматарам, а саван намаляваны быў у Беластоку. Царква займела таксама новыя званы.

Адноўлены ў 1966-1967 гадах храм, 1 мая 1973 г. стаў ахвярай пажару. Агонь расшырыўся ад "Галгофы", якую спаліў дашчэнту, і перасоўваўся ў напрамку алтара. Царкву выратавалі, але страты былі велізарныя. У сярэдзіне царква абгарэла. Некаторыя іконы былі моцна пашкоджаны, на іншых з прычыны высокай тэмпературы пачала лушчыцца фарба.



*Клір і царкоўны хор у 1951 годзе. У сярэдзіне сядзяць (злева): а. Пётр Кузьмюк, вікарны а. Антоній Нарушэвіч і дыякан Аляксандр Вішанка.*



*На заканчэнні навукі рэлігіі ў Рагаўцы ў 1976 годзе. У сярэдзіне а. Рыгор Сасна.*

На дзень прыхадскога свята Пятра і Паўла /12 ліпеня/ царква была адрамантавана і ўрачыста пасвячана варшаўскім мітрапалітам Васіліем.

Найбольш знішчаныя іконы абнаўляла варшаўская рэстаўратарка Мар'я Артвэйн. Усе іншыя іконы забяспечылі ільяным пакостам.

У наступных гадах былі нікеліраваны царкоўныя падсвечнікі, крыжы, а таксама панікадзілы. Царкоўнае брацтва дадаткова падарыла два медныя падсвечнікі, зробленыя ў Гайнаўцы. Паасобныя ахвярадаўцы ўпрыгожылі храм новымі прадметнымі дарамі. У Кляшчэлях зроблены дзве пары святочных харугваў і адна пара жалобных. Вера Нярошчук выканала ікону св. Ільі і Збавіцеля, а тасама намалявала на палатне анёлаў. Палатно гэтае памешчана над іканастасам. Аўтарства В. Нарошчук таксама "Галгофа", якая стаіць на месцы спаленай; яе падаравалі харысты.

У гадах 1978-79 зроблены капітальны рамонт жылога дома, які знаходзіцца пры царкве (старожкі), рамонт царкоўнага фасада і памаляваны дах царквы. Пры старожцы замантавалі жалезныя вароты, ліквідуючы старыя драўляныя, ужо апошнія з трох. На закрытым старым могільніку вароты таксама заменены жалезнымі. Пахаванні на гэтым могільніку магчымыя толькі па пісьмоваму дазволу начальніка горада. Ад 1974 г. прыход карыстаецца камунальным могільнікам.

Царкоўныя будынкі, па меры магчымасцей прыхода, рамантаваліся сістэматычна. Аднак так як жылыя будынкі, так і гаспадарчыя, патрабавалі замены муравымі. Па ініцыятыве вікарнага свяшчэнніка Рыгора Сасны да рэалізацыі гэтага задання прыступілі ў пачатку 80 гадоў. Тады пачалася будова прыгожага парафіяльнага дома з хрысцельніцай. Дом гэты праектаваў вядомы архітэктар Аляксандр Грыгаровіч.

Пасля пэўнай нармалізацыі прыхадскога жыцця, 28 сакавіка 1988 г. у Сямяцічы назначаецца настаяцелем а. Андрэй Якімюк. Разам з ім прыбывае сюды вікарны а. Барыс Дамарацкі.

Пры новым настаяцелі шмат людзей пачынае зноў актывізавацца ў працы для свайго прыхода. Ужо ў 1990 годзе быў пасвечаны прыхадскі дом. Плябанія, апрача памяшканняў для свяшчэннікаў, мае таксама некалькі залаў для працы з моладдзю і памяшканні на бібліятэку-архіў ды іншыя пакоі. Непасрэдна з плябаніяй спалучаны і баптыстэрый, аддадзены ў карыстанне ў 1991 годзе. Іканастас у ім выканалі рязбяр з Пінска і іканапісец Віктар Ціханаў з Менска. Алтар баптыстэрыя ў гонар св. муч. Гаўрыіла Заблудаўскага.

У 1991 годзе праводзіўся знешні рамонт галоўнага прыхадскога храма. Мяняюцца ўсе вокны і дзверы (майстар - Міхал Фёнік).

Летам 1992 г. пачаўся капітальны рамонт храма ўнутры. Наступіць замена перакрыццяў (скляпенняў), падлогі (будзе мармуровая). Дзякуючы давядзенню газу да царквы, пад падлогай будзе ўстаноўлена абаграванне. Прадбачваецца тынкоўка сцен, а ў перспектыве - абноўка іканастаса.

З 90-ых гадоў ў Сямяцічах пачало актывізавацца Маладзёжнае брацтва. Узнікла яно на базе маладзёжнага хору, які цяпер налічвае каля 50 чалавек. Апрача гэтага існуе яшчэ і дзіцячы царкоўны хор, які арганізавала настаўніца з музычнай школы. Спявае ў ім каля 60 дзетак.

Дзевяностыя гады прынеслі таксама ажыццяўленне ініцыятывы аб пабудове новай царквы. Частка Сямяціч па левы бок ракі Камёнкі, значна разраслася ў сувязі з пабудовай асабнякоў і блёкаў, і гэта стварыла патрэбу новага храма. Месца на яго пабудову выбралі надта прыгожае - на ўзгорку, з відам на ўвесь град. Добра запраектаваная царква мае шанц стацца незвычайным акцэнтам панарамы ўсяго горада (яе праект падрыхтоўваецца праф. арх. А. Грыгаровічам). Храм будзе ўзведзены на выкупленай ад васьмі гаспадароў зямлі.

Новая царква будзе пасвечана ў гонар Уваскрасення Хрыстовага, з трыма бакавымі прадзеламі: Казанскай Іконы Б.М., св. прарока Ільі і пяшчэрнай царквой ў гонар муч. Афанасія Брэсцкага.

Пакуль што ідзе пабудова часовай царквы св. пр. Ільі (з перанесенага сюды драўлянага парафіяльнага дома).

**Р.С., М.С.**

*Фота з архіва.*



*Пасвячэнне новага прыхадскога дома ў Сямяцічах — 12 ліпеня 1990 г.*

Напрыклад у Францыі

## НЯМЕЦКАЯ МОВА Ў ШКОЛАХ ЭЛЬЗАСА

Эльзас (польская назва: Alzacja) — гэта гістарычная краіна ва ўсходняй Францыі, паміж гарамі Вагезы а гранічным Рэйнам. Вядомая яна з вырошчвання збожжа, цукровых буракоў, вінаграду, фруктовых дрэў, агародніны, тытуню, хмелю і здабывання з зямных нетраў каліевай солі. Галоўны прамысловы горад Страсбург (250 тысяч жыхароў) з'яўляецца цэнтрам Рады Еўропы і важным міжнародным аэрапортам.

Першапачаткова заселены кельцкім насельніцтвам, Эльзас у старажытную эпоху быў у складзе Рымскай імперыі, потым — залежна ад вынікаў многіх французска-нямецкіх войнаў — пераходзіў з рук у рукі, а межы нярэдка дзялілі нацыянальна і культурна цэласную тэрыторыю на дзве часткі. Пасля Вялікай Французскай рэвалюцыі 1789 года ўвесь Эльзас апынуўся ў Францыі, але ў выніку французска-прускай вайны 1870-71 гадоў быў далучаны да II Рэйха. Версальскі трактат у 1919 годзе ізноў вярнуў яго Францыі, але яшчэ ў ваенныя 1940-45 гады быў пад адміністрацыяй гітлераўскай Германіі.

Эльзас — цікавы рэгіён, не толькі па прычыне сваёй гісторыі, але таксама дзякуючы геаграфічнаму месцараспалажэнню, а што за тым ідзе — дзякуючы сваёй культуры. Пішучы пра геаграфічнае месцазнаходжанне, трэба перш-наперш мець на ўвазе той факт, што гэта прыгранічная краіна, якой суседам з'яўляецца Нямеччына, а на поўдні — у пераважаючай частцы нямецкамоўная Швейцарыя — дзве дзяржавы, якія заўсёды адыгрывалі важную ролю ў гісторыі, а сёння займаюць прывілеяванае месца ў Еўропе. Можна тады ўпэўнена сказаць, што гісторыя Эльзаса ў значнай ступені сфарміравалася пад уплывам яго месцараспалажэння. Менавіта гісторыя мела бадай самае адметнае ўздзеянне на псіхіку, менталітэт і культуру эльзасцаў.

Эльзас — рэгіён Францыі, у якім нямецкая мова з'яўляецца мовай вельмі распаўсюджанай. У сапраўднасці эльзаская мова ёсць дыялектам нямецкай мовы. Апора гэтага дыялекту — вёскі і малыя мястэчкі. Дзякуючы ім яшчэ 20 працэнтаў эльзаскіх дзяцей гавораць так, як іх бацькі і дзяды, а наступныя 30 працэнтаў — разумеюць дыялект. Усе гэтыя дзеці ўжо ва ўзросце 5 гадоў з лёгкасцю прысвойваюць нямецкую літаратурную мову.

З увагі на гістарычныя, культурныя і геаграфічныя адрозненні мовай навучання нумар два, зараз за французскай як дзяржаўнай, з'яўляецца якраз мова нямецкая. Навучанне мовы найбліжэйшага суседа ў пачатковых школах Эльзаса адбываецца часта на канве мясцовага дыялекту. Аўтарамі падручнікаў у большасці выпадкаў з'яўляюцца дзейныя настаўнікі тых школ. Безумоўна, калі дзеці разумеюць эльзаскі дыялект, а яшчэ лепш — калі гавораць па-эльзаску, дасягаюць значных поспехаў у гэтай галіне. Эльзаская мова з'яўляецца тады памостам эфектыўнага пазнавання мовы ўсходняга суседа.

Пасля 1945 года ў Францыі вялося навучанне толькі французскай мовы. Да нядаўняга часу ў Эльзасе нямецкую мову выкладалі больш-менш так, як ва ўсёй краіне. У апошнія гады, як бачым, шмат што змянілася. Тое, што 20 гадоў таму назад было немагчымым, цяпер стала рэальным. Сістэматычна ўзрастае свядомасць патрэбы вывучэння мовы суседа сярод жыхароў, як і ў палітыцы асветных улад. Сёння больш за 50 працэнтаў вучняў (у гэтым ліку ёсць значная колькасць дзяцей французскай нацыянальнасці) выбірае мову Гётэ і Баха ў калежы і ліцэі.

Напярэдадні адкрыцця граніц Еўрапейскай эканамічнай садружнасці (EWG), якое праўдападобна наступіць у 1993 годзе, Францыя імкнецца да распаўсюджвання ў грамадскасці замежных моў. Ужо здаўна, ад пачатку сямідзесятых гадоў адным з прыярытэтаў акадэміі ў Страсбургу з'яўляецца навучанне нямецкай, англійскай, а таксама італьянскай, іспанскай, партугальскай, арабскай, рускай і нават японскай моваў. Выкладаецца таксама і польская мова, асабліва на абшары каліевага басейна, дзе пэўная колькасць эмігрантаў гаворыць па-польску.

Складаная, часта драматычная гісторыя на працягу многіх гадоў была заганай Эльзаса, сёння напэўна стане яго важным козырам. Французска-нямецкія суадносіны ад доўгага часу з'яўляюцца суадносінамі ўсебаковага супрацоўніцтва, узаемнага давер'я і дружбы. Гэта дзякуючы сваёй спецыфіцы Эльзас ужо сёння адыгрывае вельмі важную ролю ў гэтым садзеянні.

Таксама нямецкі бок, нягледзячы на маналікасць французскай меншасці, некалькі гадоў таму назад у прыгранічнай зоне ўвёў абавязковае навучанне французскай мовы. Адным з асноўных аргументаў гэтай пастановы з'яўляецца патрэба ўтварэння моцнага гаспадарчага рэгіёна над Рэйнам паміж гарамі Вагезы, Юра і Шварцвальд.

Французы і немцы ўжо ведаюць, што без пашаны да суседзяў, без шчырай ахвоты разумець праблемы ўсіх рэгіянальных супольнасцяў і акцэптацыі іх адрозненняў, урэшце без лінгвістычнага абмену, асабліва ў галінах навукі, тэхнікі і інфармацыі, не можна будаваць еўрапейскага дома. Веданне моў суседзяў — гэта першы крок да шырэйшай інтэграцыі.

Апрацаваў
**ЮРКА БАЕНА**

## НЕМАРАЛЬНЫЯ ПАЛОТНЫ ЦІ КРЫЗІС РОЗУМУ?

Артыкул аб выстаўцы палоцен, намаляваных падчас сяголетняга мастацкага пленэру ў Белавежы, пісаў я ў яе першых днях. Не падазраваў нават, што праз некалькі дзён (дакладна праз дзесяць) некаторыя карціны будуць зняты. Той, хто прачытаў мой артыкул, здагадваецца ўжо хіба, што рэч ідзе тут пра два палотны Кшыштафа Кушая з Лодзі, на якіх мастак намаляваў між іншым, дзве жанчыны, у якіх відаць палавыя органы.

„Свінскія палотны" дамагаліся зняць з выстаўкі некаторыя, маладыя наогул узростам, настаўніцы, якія прыводзілі ў музей сваіх вучняў. Яны тлумачылі, што абразы дэмаралізуюць моладзь. Тая аднак мала што і цікавілася „белавежскай парнаграфіяй". Пытаў я некалькіх хлапчукоў, што думаюць пра гэтае „свінства". У адказ пачуў, што яны не такія „рэчы" бачылі па відзіку ці ў парнаграфічных заходніх часопісах. Вось табе і ўяўленні дарослых аб тым, што пра секс ведае сённяшняя моладзь!

Дырэктар нацыянальнага парку, калі перад ім з'явіліся раз'юшаныя настаўніцы і сталі пагражаць, што павядомяць аб „немаральных палотнах" прэсу і тэлебачанне, здаўся і дзеля спакою загадаў зняць палотны. „Ахоўніцы" маральнасці трыумфавалі!

А мне ад усяго гэтага сумна зрабілася на душы. Бо ў якім мы свеце жывем? І ў якую эпоху — у сярэдневяковуі? Той секс, які быў паказаны на палотнах, у ніякім выпадку не можна назваць парнаграфіяй. Гэтыя малюнкі нават не падыходзілі б, з-за сваёй павярхоўнасці, для ўрока па чалавечай анатоміі на тэму палавых органаў. Яны таксама бадай не ў змозе выклікаць сексуальную прагнасць у наведвальнікаў. А ўсё ж палічылі іх небяспечнымі! Хто з нас тут здурнеў?

Раздумваю таксама над тым, чаго могуць навучыць дзяцей тыя ж настаўніцы з такім поглядам на маральнасць, на справы сексу? І чаму яны не выкінулі дагэтуль гэтых „свінстваў", якія самыя носяць пад спадніцамі?

Як жа несмяротная дурнота!

**П. БАЙКО**

## ЯК ПАЧАЛІ НОВЫ ШКОЛЬНЫ ГОД ВУЧНІ Ў ДУБІНАХ І АРЭШКАВЕ?

Наведалі мы падставовыя школы ў Дубінах і Арэшкаве, што ў Гайнаўскай гміне.

**Дубінская** школа, у якой вучыцца 190 дзяцей, мае пачатковыя класы ў Навасадах і ў Барысаўцы. На ўроках беларускай мовы займаецца 90 працэнтаў усіх вучняў — паінфармавала дырэктар Ніна Валкавыцкая.

Перад пачаткам новага навучальнага школьнага года адрамантавалі і памалявалі класныя залы. Зараз V і VI класы вучацца нямецкай мовы. Урокі вядзе настаўніца з Гайнаўкі — Яўгенія Карвоўская.

Вучні запланавалі экскурсію на Семяноўскае вадасховішча і на керамічную фабрыку ў недалёкім Старым Ляўкове, што ў суседняй гміне.

У верасні бягучага года ў школах у Барысаўцы, Навасадах і Дубінах адбыліся аўтарскія сустрэчы з членам Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" — Янкам Целушэцкім.

У васьмі класах у школе ў **Арэшкаве** навуку пачало 114 вучняў. Ходзяць яны сюды ажно з адзінаццаці вёсак. Тут працуе адзінаццаць настаўнікаў. Беларускай мовы вучаць Ірына Герасімюк, Валянціна Касцевіч і Аляксей Мароз. Роднай мовы навучаецца 90 працэнтаў усіх школьнікаў.

— Сёлета перад пачаткам навучальнага года ў нашай школе адрамантавалі дах і змянілі вадасцёкавыя трубы, а таксама аднавілі адзін класны зал — для першага класа ды ўмывальню, — сказала дырэктар Тамара Крайнік. — У кастрычніку пачалі штогадовую акцыю „Шклянка гарачага малака для кожнага вучня".

Вучні самі даглядаюць кветкі на школьных калідорах, дбаюць пра чысціню ў класах, арганізуюць дыскатэкі, дзяжураць у раздзявальні.

Нядаўна вучні старэйшых класаў і настаўнікі арганізавалі веласіпедны рэйд па Белавежскай пушчы. Паехалі цераз вёску Лазіцы, а закончылі падарожжа ў Тапіле. Тут спявалі і гулялі пад кронамі векавых дрэў каля шугаючага высокім полымем кастра ды падсілкоўваліся падсмажанымі на агні каўбаскамі. Як згодна сцвердзілі ўсе ўдзельнікі, рэйд быў вельмі ўдалы. У будучыні вучні плануюць паездку на спектакль у Лялечным тэатры ў Беластоку. Калі ім дазволіць на гэта час, наведаюць рэдакцыю „Нівы" і „Зоркі".

25 верасня бягучага года меў тут аўтарскую сустрэчу „белавежац" Янка Целушэцкі.

**ЯСЕНЬ**

## „ЁЛУП"

Музыкант у Кляшчэлях (прозвішча не памятаю) іграў на гармоніі (гэта было перад вайною), хлопцы з дзяўчатамі танцавалі, а ў Пасіковай хатцы, дзе гэта адбывалася, вісеў туман пылу. Усе дзеці з нашай вёскі з захапленнем прыглядаліся гэтай забаве. Я не мог адарваць вачэй ад гармоніі і наслухацца тае музыкі, якая з яе выплывала.

Адзін такі абарванец, як я, але не галодны — Міколкай яго звалі, спытаў тады мяне:

— Васька, калі музыкант расцягвае гармонію, тады больш зубоў робіцца ў яе, ці астаецца толькі сама?

— Пэўна, што толькі сама, толькі яны пашыраюцца...

— Але з цябе ёлуп, яны вылазяць з рамак, калі гарманіст расцягне інструмант, а хаваюцца, калі сціскае.

— Калі б вылазілі, дык рассыпаліся б...

— Ты дурню, ты ёлупе, ты мазурская морда, хочаш быць разумнейшы за мяне? Пятро, Міця хадзіце сюды, — паклікаў Міколка брата і суседа, якія нават не ведалі ў чым справа, але далі мне ў скуру.

Вярнуўся я дадому з плачам, а бацька пытае:

— Што сталася?

— Хлопцы набілі.

— Калі ты такі дурань, што даўся, каб „натрапалі", дык плач.

Так прыйшлося мне застацца „ёлупам". А Мікола і Міця не вярнуліся з Нямеччыны, а Пятро жыве там, дзе жыў...

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

## ЦІКАВАЯ ЗНАХОДКА

У храбалоўскім лесе, у адлегласці 275 м на паўночны захад ад маста, на канаве шасейнай дарогі Храбалы — Плюцічы, 5 кастрычніка 1974 г. знойдзена акамянеўшая ножка драўлянай лялькі.

Узгорак, вышынёй 85—110 см, мае эолавае геамарфалагічнае паходжанне. У яго гумусавы выкапны гарызонт глебы з дробназярністага пяску. Дрэва ў выглядзе дзіцячай ножкі было апрацавана разумнай істотай. Аднак жа, гэтае геаграфічнае асяроддзе не садзейнічае працэсу акамянення. Відаць, ножку перанесена сюды аднекуль. А колькі патрэба тысячагоддзяў, каб дрэва акамянела? Ніхто на гэта рашучага адказу не дасць. Усё залежыць ад геаграфічнага асяроддзя.

Даўжыня знойдзенай ножкі — 15 см, яе шырыня — 5 см. Ёсць сляды пераломы акамянеласці. Вельмі цікавая гэта знаходка.

**ІНЖ. Б. Ф. РУДКОЎСКІ**
**Фота аўтара**



# ГЕНУСЬ З „ГРАМАДОЙ"

*Працяг са стар. 1*

ў нас няма. Нам - музыкам няма куды дзявацца. Быў камерны - распусцілі, грошай няма. Я кампаную музыку да некаторых прадстаўленняў...

*- Між іншымі, да "Мудрамера", "Сёмага подзвігу Геракла", "І смех і грэх"... А як было з рок-операй "Ладдзя Роспачы" па У. Караткевічу?*

- Я, калі яшчэ не прыйшоў у тэатр, меў такую мару - зрабіць спектакль на сцэне тэатра. Вось трэці год падбіраў матэрыял, кампанаваў, прабаваў з аркестрам і з выканаўцамі. Маю клопат з акторамі. Часам калі актор умее сябе паводзіць на сцэне драматычна, то ў музыцы выступае аматаршчына, або і горш. Бываюць артысты, якім Пан Бог даў і слых і драматычнае майстэрства, і разуменне музыкі. У "Ладдзі Роспачы" выступае маладая спявачка Света Ятчанка (толькі што кончыла кансерваторыю, знайшла працу ў Бярэсці), Света Жукоўская... Мы за год зрабілі кавалак трохгадовай работы.

*- Апрацоўваеш народныя песні, аранжуеш расейскія і заходнія гіты ў перакладзе на беларускую мову. І сур'ёзныя творы на словы Караткевіча, Сокалава-Воюша, Купалы, Гаруна. З гэтым вы выступілі на трэцім "Басовішчы", і гэта здзівіла і ... не спадабалася слухачам. Не крыўдна табе і хлопцам? Людзі хочуць вас бачыць толькі як "папулярную каманду"!*

- І мне крыўдна таксама, што людзям не так патрэбная сур'ёзная музыка. Чалавек хоча вось сабе сядзець, адпачываць, размаўляць сабе, і каб нешта от так яму іграла і не дакучала. А з другога боку, той, хто хоча слухаць прафесійную музыку, той будзе яе слухаць у кожнай сітуацыі. А сур'ёзная музыка - сапраўды, музыка эліты, людзей падрыхтаваных. Масавай музыкі хапала на Беларусі, "расейскай". А тая далёка і ад расейскіх каранёў. Шмат з таго, што спявалася - пазабывалася. А калі забытае - значыць, не жыве, а тады гурт, які гэта выконваў - таксама не жыве. На Беларусі бракуе якраз такой музыкі, як наша. Беларуская музыка занята расейскім музычным рынкам. Уся масавая культура цягнецца з Расеі на Беларусь. А тэлебачанне ўсё перабівае. А на беларускім тэлебачанні працуюць людзі, якія ў душы можа і лічацца беларусамі, але... Раз ты беларус, і ў сябе дома размаўляй па-беларуску! А яны і далей арыентуюцца на Маскву. А музыка мае псеўда-беларускі характар. Нават стылізацыі, балады - і тут чуецца капіроўка маскоўскай эстрады. А мы - закранаем карані, стараемся не адыходзіць у сваіх песнях ад народнай інтанацыі, а ў народных аранжыроўках - стараемся захоўваць форму, пабудову песень, даем аранжацыю, блізкую па слыху кожнаму чалавеку, не за мудрую, каб гэта было вельмі проста, так як у свой час рабілі "Бітлз". Вельмі проста, каб запамяталася.

*- Чаму вы больш вядомыя ў нас, чым у Беларусі?*

- У Беларусі думаюць аб кілбасе. Калі чалавек галодны, ён не думае пра музыку, пра мастацтва. Але ёсць людзі, якія цікавяцца нашай музыкай, і нашы касеты "ходзяць", людзі перапісваюць іх адзін ад аднаго. Хапіла адну касету запісаць у Мазыры, а ідзеш - то там, то тут чуеш, як гучаць твае песні. Людзі слухаюць. У Менску нашы касеты ў пісьменнікаў, у мастакоў...

*- У людзей беларускага духа.*

- Палякі на нашых касетах зрабілі бізнес, а беларусы аб сябе не могуць дбаць. Добра, што БГКТ купіла для беларускай справы камп'ютэры, а то ўсе думалі б, што беларусы толькі ў лапцях! А тут і электроніку маюць...

*- Але ж яна не працуе...*

- Але камп'ютэры ёсць! Але гэтага мала. Трэба фірмы фанаграфічныя мець свае. І людзей сваіх на кіраўнічых пасадах. Вось такія кіраўнікі базару ў Бельску - якія добрыя беларусы. Беларускі чалавек ніколі не быў гультаём, толькі не давалі яму волі і долі. Даць яму гэта, не будзе жыць горш немца ці амерыканца. І гасцінны, і багаты!..

*- Былі тыдні, што па 5 тысяч вашых касет прадавалася штотыдзень..*

- А што мы з гэтага мелі? Судзіцца не маглі, бо да канца абарона аўтарскіх правоў у Польшчы не забяспечана. А калі б за справу ўзяліся беларусы, гэта з карысцю было б для нас усіх.

*- Генусь, а што ты маеш для нашых дзяцей? Твае песні спявае дзіцячы гурт "Чабарок" з Менска. Мог бы ты прывезці на наступны раз касету з песнямі для дзяцей Беласточчыны.*

- Людзі пішуць дзіцячыя песні для дзяцей сваіх і суседскіх. "Чабарок" узяў ІІІ месца ў рэспубліканскім конкурсе дзіцячай песні, мая "Гулянка-лічылачка" ішла тры разы на біс. Дзіцяці не падманеш. Калі нешта кепска, яно і слухаць не будзе. А калі ўпадабае песню, будзе яе спяваць. Я працую ў школе. Дзецям не падабаюцца інтанацыі "з галавы на ногі", а запамятаюць інтанацыі народнай беларускай песні. Калі дзеці будуць па-беларуску размаўляць, будзе жыць і нацыя.

*- Дзякуй табе, Генусь за размову. Заўсёды чакаем "Грамаду" на Беласточчыне!*

Размову вяла
**МІРА ЛУКША**



*„Грамада" на Беласточчыне.*

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

*17-12-1988 г.*

З'езд - устаноўчы - Беларускага аб'яднання студэнтаў (будынак ГП БГКТ). Выступіў у дыскусіі: трэба - моцнай матэрыяльнай базы, рэгулярнага выдавецтва, стацыянарных формаў асветнай дзейнасці. Тады арганізацыя будзе румянай і доўгавечнай.

З'езд пачаўся пасля 11-ай гадз. і працягваўся да позняга вечара (каля 17-ай я пайшоў дамоў, зморany балаганам гэтых мерапрыемстваў).

Другая пасля БГКТ беларуская арганізацыя ў ПНР, пасля амаль васьмі гадоў намаганняў.

Старшынёю БАСу выбраны Яўген Вапа (на 61 галасуючых 48 былі за ім, 7-х за Юркам Калінаю і 2-х за Юркам Грыгаруком). Галоўную раду выбіралі асобнай працэдураю (10 асобаў). Вапа як лідэр - на мой погляд - будзе найлепшы, з увагі не толькі на сваю інтэлігентнасць, але і дынамізм, заядласць у дзеянні. Ёсць і рызыкоўныя рысы ў яго характары ды паводзінах: некаторая шаленаватасць, залішняя падатлівасць уплывам з боку польскага палітычнага падполля (непатрэбна далучае БАС да дэкларацыяў такіх груповак, як PPS; "Robotnik" Nr 7 (139) ад 6 снежня, стар. 4). Можа, трохі, шкада, што няма Валіка Сельвясюка... Ён з усіх іх - найглыбокі (цікавая яго карэспандэнцыя з Нью-Йорка з апошняй "Прысутнасці"; "Ніва" ад 18-га). - Чамусьці не было Лёніка Тарасэвіча, хоць учора ён застаўся быў - пасля заняткаў у Беларускім народным універсітэце - для нарады з арганізатарамі сённяшняга З'езду. Разлады?

Альштынскае "Pojezierze" адмовілася, у рэшце рэшт, ад другога выдання "Ściany" (пішуць: малое зацікаўленне ёю, але... ганарар поўнасцю выплацяць). Узамен прапануюць - другое выданне "Białorusi, Białorusi". Добра!

Слаўка пераехаў з Алецка жыць з намі. На зіму ўсяго? Каб з вясною ізноў павалачыся?

*19-12-1988 г.*

(...) Учора - на пленуме ГП БГКТ. Сумнае, з'явілася ўсяго палова выбраных надаўнім З'ездам яго членаў. Блакада нейкая, недахоп кворума перакрэслівае магчымасці прыняцця пастаноў. Сохне грамадскі рух. Крайняя прафесіяналізацыя.

Чуваць - Сачанкі "На Зямлі Беластоцкай" выклікала дыпламатычны пратэст ПНР (і "Ład" нешта нашумеў). Надобра! Я гаварыў Вярцінскаму, што палякі хворыя наконт беластоцка-беларускага сепаратызму. Сказаў, бы ў ваду гледзячы. (...)

*21-12-1988 г.*

(...) Дзень у ГП БГКТ. З А. Міpановічам, Барскім, Чыквіным над рэдагаваннем пратэсту супроць праекта праграмы развіцця культуры на Беласточчыне, у якім амаль нічога няма пра беларусаў і іх патрэбы. Ад першай - гутарка з Сэрчыкам пра тое ж (былі Барскі, Максімюк, Зянюк, Юзвюк; Міpановіч і Чыквін - не. Відаць, забаяўшыся як работнікі універсітэта, у якім прафесар мае важкі голас).

Вельмі і вельмі паганае самаадчуванне...

*22-12-1988 г.*

Не пішацца таму, што аднаўляю свае сілы я? Не толькі, не толькі...

(...) У новай палітычнай сітуацыі неяк прасвятляе раптоўную ласку да мяне з боку рэжымнікаў факт, пра які прачытаў у калядная "Палітыцы": непасрэдна пры Валэнсе арганізаваўся Грамадзянскі камітэт, у якім утворана м.ін. Камісію для супрацоўніцтва з нацыянальнымі меншасцямі (- М. Эдэльман, арганізатар жыдоўскага паўстання ў 43-ім).

Для пазнаткі дзеянняў у напрамку нармальнасці ў ненармальнай Польшчы?

Як будуць перабудоўваць свае адносіны да нас?

*(Працяг будзе)*

Тлумачэнні:

*- "Robotnik" - падпольная газетка сацыялістаў;*

*- праф. Сэрчык быў важны нам тады як кіраўнік ваяводскай Камісіі культуры;*

*- Марк Эдэльман - лекар, дзеяч "Салідарнасці", адзін з камандзіраў Жыдоўскай баявой арганізацыі ў час паўстання ў варшаўскім гэта; пры Валэнсе ўзначаліў тую нацыянальную камісію.*

# БАЛАХОВІЧ

*працяг са стар. 4.*

Польшчы. Пілсудскі зрабіў пераварот, у якім на ягоным баку змагаліся таксама балахоўцы. Балаховіч, між іншым, загарадзіў дарогу для ўрада Вітаса, які ўцякаў у Познань. У 1927 г. Балаховіч арганізаваў у Белавежы з'езд балахоўцаў, з якімі ўступіў у Саюз былых удзельнікаў нацыянальных паўстанняў, а якога старшынёй стаў год пазней. Прабаваў таксама ўключыцца ў выбары ў 1928 г. як беларускі палітык, але зноў без поспеху.

Наступныя гады ў жыцці Балаховіча гэта ветэранская дзейнасць. Нарэшце надаела Балаховічу займацца абедамі, прамовамі і вершаскладаннем. У 1937 г. сабраўся ён у Іспанію, дзе ішла грамадзянская вайна і змагаўся на баку генерала Франка да перамогі ў 1939 г.

Толькі паспеў вярнуцца ў Польшчу, калі пачалося нямецка-савецкае нападзенне.

Балаховіч прыймае ўдзел у абароне Варшавы, апошні ўжо раз у жыцці арганізуючы дыверсійна-разведачны кавалерыйскі атрад. Не склаў зброі і пасля разгрому польскай арміі, ствараючы са сваіх „сынкоў" падпольную Народную добраахвотніцкую армію.

Загінуў... Тут, на жаль, упэўненасці не маем, бо многія крыніцы па-рознаму падаюць дату і віноўнікаў смерці Бацькі: 1940, 1941, 1943; гестапа, НКВД...

Усё-такі, мяркуецца, што Станіслаў Булак-Балаховіч загінуў у 1940 годзе з рук гітлераўцаў. Месца яго пахавання — невядомае.

Гэтую смерць яшчэ 2 гады таму назад нехта Сцяпан Пачанін назваў у „Полымі" няслаўнай. Такім спосабам апаганьвалася камуністамі ўсё жыццё і дзейнасць Балаховіча. Паколькі камуністычную прапаганду нельга лічыць гісторыяй, дык і выпраўляць яе не буду — шкада часу і паперы. Намнога больш цікавай з'явай ёсць прамоўчванне асобы Балаховіча беларускай эміграцыяй з часоў апошняй вайны. Абараняў яго толькі адзін пісьменнік — Юрка Віцьбіч (Юры Стукаліч).

Думаю, прычына ў тым, што ваенная эміграцыя схілялася да традыцыі эміграцыйнага ўрада БНР у Коўне, Берліне і Празе. Адсюль ідзе выхваляньне Ластоўскага, які, дарэчы, служыў немцам, бальшавікам, літоўцам, ды ізноў бальшавікам, і гатовы быў служыць палякам, толькі гэтыя якраз адмовіліся. Узорам ваеннай дзейнасці стаў Кастусь Езавітаў, які наўрад ці хоць раз выстрэліў у абароне Бацькаўшчыны. Святкуецца чарговыя ўгодкі Слуцкага паўстання, ні словам не ўспамінаючы, што арганізавалі яго зялёнадубаўцы і балахоўцы, і што Балаховіч прымаў апошні рапарт Слуцкай брыгады.

Відаць, добры беларус можа служыць Сталіну або Гітлеру, ці нават абодвум, абы толькі не Пілсудскаму.

Пасля І сусветнай вайны беларусы знайшліся ў тупіку, з якога выцягнуць іх магла толькі чарговая вайна. Ці можа лепш было б, каб Браніслаў Тарашкевіч займаўся літаратурнай дзейнасцю, замест прадаваць свой народ Сталіну. Балаховіч у той час пісаў паэму пра свайго сабаку Райта. Свае пяць мінут у гісторыі меў ён у 1920 годзе і толькі на гэтым перыядзе варта гісторыку спыняцца.

Як вядома, Бог заўсёды на баку мацнейшых батальёнаў. Беларусы не маюць ніякіх шанцаў, каб якраз іхнія батальёны былі тымі мацнейшымі. Пасля адыходу немцаў з Беларусі выбар быў толькі такі: або ісці з палякамі супраць бальшавікоў, або наадварот.

І што б не было пазней, Балаховіч стварыў адзіную ў гісторыі дзейную беларускую армію, калі спроба стварыць беларускія бальшавіцкія сілы скончылася тым, што добраахвотнікаў накіравалі ў Чэка, дзе яны служылі з не меншай адданасцю, як латышскія стралкі.

Гэтая служба абыйшлася Беларусі двумя мільёнамі ахвяраў.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### „RARA AVIS" ПРАПАНУЕ

У каталогу н-р 5 з кастрычніка г.г. кракаўскі антыкварыят „Rara Avis" ( ul. Szpitalna 7/4, 31—024 Kraków) прапануе каля 140 розных старых выданняў, з ліку якіх я выбраў шэсць, пераканаўшы ў тым, што могуць яны зацікавіць некаторых чытачоў „Нівы". Названы ніжэй кніжкі можна заказаць пісьмова.

Poz. 27 — Gloger Z., Encyklopedia staropolska ilustrowana, T. 1—4, Warszawa 1900-1903. Cena 700 tys. zł.

Poz. 34 — Hruševškyj M., Chmeľnyćkyj i chmel'nyččyna , Istoryčnyj eskiz, Lwów 1901. Cena 30 tys. zł.

Poz. 39 — Hofmokl-Ostrowski /Z./, Brześć, Cz. 1, Warszawa 1932 /zawiera: Introdukcja, Skład sądu, Akt oskarżenia/. Cena 80 tys. zł.

Poz. 47 — Keyser E., Atlas der ost- und westpreussischen Landesgeschichte, I Teil, Kulturen und Völker der Frühzeit im Preussenland, Braunschweig 1936. Cena 380 tys. zł.

Poz. 57 — Litwa za rządów ks. Isenburga, Kraków 1919. Cena 90 tys. zł.

Poz. 79 —Puzyrewsky Al., Der Polnisch-russische Krieg 1831, Bd. 2—3 /brak t. 1/, Wiedeń 1893. Cena 360 tys. zł.

**ПЁТР БАЙКО**

## НАША ПОШТА

Дарагая Ада і ўся твая „Ніва"!

Дзякуй вам, што так аператыўна надрукавалі гэтую маю „пісоўню". Мы сапраўды ўжо сталі зусім нейкія бязграматныя, сорамна мне, якая вельмі доўга працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Пра тое, што я да таго ж член СПБ, неяк увогуле ўспамінаць не хочацца, але памёр Карпюк, а я была ягонай „намесніцай" у Гродзенскім аддзяленні СПБ, таму часова выконваю абавязкі „сакратара". Адны сакратары згінулі, іх дробныя марыянетачкі засталіся...

Я хацела табе расказаць, як атрымала ўчора перасылку ад цябе — тыднёвік „Ніва" н-р 34 і ганарар. Мне пазваніла ранкам жанчына і на добрай беларускай мове сказала аб гэтым. Дамовіліся, што я прыйду па адрасу ўвечары. Калі я з'явілася туды, на стале ў вялізнай тацы дыміўся пірог. Мяне там чакалі. Усадзілі за стол. Пілі гарбату і размаўлялі. „Ніву" мая цёзка прачытала, — яе таксама завуць Дануся, яна скончыла ў Ленінградзе Інстытут кінаінжынераў... Мой памёршы муж Эрык таксама яго скончыў. Яна выйшла замуж за пецярбуржца, які не хоча ехаць у Беларусь, любіць свой горад і сваю маці, а Дануся не хоча заставацца ў Піцеры, бо любіць свой горад і сваю маці. Маленькія драмы „савецкага" народу. Той, каму ты перадавала „Ніву", — Данусін швагер. Бацька Данусі мне аказаўся знаёмым, яго спатыкала ў складзе актывістаў Саюза палякаў на Беларусі, у касцёле.

У Данусі былі мае зборнікі вершаў, яна папрасіла напісаць аўтографы, што я з прыемнасцю зрабіла.

Дома ўвесь вечар мы чыталі „Ніву". Ад Чобата дзякуй за першую рэцэнзію на ягоны зборнік вершаў „Год". Усё добра ў ягонай паэтычнай біяграфіі — у „Ніве" ўпершыню надрукавалі падборку вершаў, у „Ніве" аператыўна адгукнуліся на першы зборнік. Можа пры аказіі вы нам растлумачыце адзін „сакрацізм" — што гэта за „скідальская правененцыя". Зрэшты, я да гэтага часу не ведаю таксама, што такое „лаханда" — эпітэт, якім я нібыта называла Аляксея Карпюка, аб чым пісаў у дзённіках наш вельмі шанаваны Сакрат, якому перадаю прывітанне.

Трымайся, Ада! Ці заўважыла ты, калі ехала ў Менск, мае мурожныя Біскупцы? Цалую цябе —

**Дануся**
**(Бічэль-Загнетава).**

Ад рэд: Пасылку на гэты раз пераслаў Сакрат. Ён гаворыць, што „правененцыя" гэта лацінскі тэрмін, які абазначае сукупнасць сацыяльнага паходжання, а „скідальская", бо Чобат адтуль.

„Лаханда" — гэта крынкаўскае абазначэнне нястрымна гаварлівага чалавека. Сакрат гэта слова выкарыстаў з надзеяй, што мо яно пашырыцца далей.

Мы таксама паслалі табе газеты і здымкі праз Міру Лукшу, якая пакінула ўсё ў акушэркі Фаіны Царан з „Паходні".

Тваіх Біскупцаў, едучы ў Менск, я не прызнавала — мілыя яны, але сумныя і адзінокія без цябе.

**А. Ч.**

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# БУЛЬБА

Бульбу каля шпітальнага склада прадуктовых тавараў рассыпалі заўсёды: тады, калі прывозілі і насыпалі на зіму, і тады, калі бралі ўжо, каб укінуць у кацёл і зварыць хворым. Прыгожа выглядалі вялікія круглыя бульбіны, рассыпаныя паўкругам звонку дзвярэй склада. Ляжалі яны, людзі казалі: „Добрую бульбу закупіў шпіталь!", — але ніхто не схіляўся, каб тую бульбу падняць. Навошта былі ім тыя пяць кілаграмаў, калі свая ў мяшках хутка высахне і трэба яе есці. Праз дзень або два бульба яшчэ валялася, але была ўжо раструшчаная, раз'езджаная самаходамі. Пасля дазорцы заміталі яе.

* * *

Так і сёння вось. Нехта з сацыялістычнай яшчэ, народаўласніцкай ноншалянцыяй ізноў рассыпаў бульбу каля шпітальнага склада. Здалёк відаць было, што бульба і сёлета ў шпіталі добрая. Ніхто яшчэ не паспеў яе растаптаць.

Раптам невядома адкуль, падазрона азіраючыся па баках, да бульбы наблізіўся чалавек у акулярах. Я крыху ведала яго. Працаваў у гэтай бальніцы ўжо гадоў пятнаццаць лекарам. Выцягнуўшы хуценька з кішэні мяшочак, ён маланкава пачаў укідаць у яго бульбу, якой поўна было навокал. Мяшочак быў не надта вялікі, бадай нейкі аварыйны, і чалавек рэшту бульбы пачаў упіхаць сабе ў кішэні. Рабіў гэта не зусім спрытна, неяк нервова, і, каб не канфузіць пана доктара, мы павярнулі ў другі бок.

* * *

Мала хто і застаўся ўжо тут з тых, што некалі разам палявалі. З палявання прывозіў жонцы столькі дзікіх качак, што ўжо ёй абрыдла іх скубці. Скардзілася суседкам, што слоікаў-вэкаў не хапае, каб усе качкі пахаваць. А муж не даваў, каб змарнавалася хоць адна. Нельга ж так!

Захад, куды паўцякала большасць яго сябраў, заўсёды фасцынаваў яго. Ого-го! — заходні менталітэт!

Калісь быў у немцаў, дык там бачыў, як людзі заможна жывуць. Але ўсё гэта праз іх ашчаднасць. Калі ў гаспадыні, дзе ён стаяў, скіс булён, дык яна не перанялася: „Будзе боршч на натуральным квасе!" Боршч быў сапраўды смакавіты, дык, калі вярнуўся ён дахаты, загадаў жонцы ў выпадку чаго зрабіць таксама. Ну, і здарылася. Забылася яна схаваць няз'едзены булён у лядоўку, скіс, дык зварыла на ім боршч. Уся сям'я плявалася, дзеці галодныя засталіся.

Нам з тым Захадам усё ж не зраўняцца! Сябры, што павыязджалі, пісалі ад часу да часу, як там добра і разумна людзі жывуць. Але яму хацелася быць дома, тут, дзе яго бацькі, уся сям'я і знаёмыя. Цвёрда верыў, зрэшты, што Захад з часам прыйдзе сюды. А тады яму як лекару бяды не будзе! Не трэба будзе бегаць, як сабаку, каб падзарабіць крыху. Тут гадзіна, тут —дзве, сюды — на кансультацыю. Дзяжурствы хапаць адзін перад другім, бо ўсё ж дадатковы грош. Будзе сядзець сабе ў прыватнай клініцы, як пан, ды прымаць багатых пацыентаў. Захад мае добрыя традыцыі!

Некалі вярталіся з сям'ёю з Крыма, дзе адпачывалі. У самалёце было шмат немцаў, якія традыцыйна накупілялі „Савецкага шампанскага". Раптам у аднэй немкі шампанскае „выстраліла", корак палящеў уверх, а араматная вадкасць струменем хліснула за ім. І што вы думаеце?! Дазволіла тая дзяўчына змарнавацца хоць адной кроплі?! О не! Падставіла пад струмень сваё горла і так піла, пакуль струмень не спыніўся. Немцы рагаталі, але дзяўчына сваё ведала. Пан доктар быў захоплены нямецкай гаспадарлівасцю...

Заўсёды шкадаваў, што ў нас ашчаднасць ніколі не залічалася да найлепшых рысаў характару. Як жа гэта? Не паставіць кілішка сябрам на імяніны?! Непрыгожа! А ты яму салоныя палачкі з гарбатай дай! Няхай у хаце ёсць і п'е! А ідучы да кагось у госці, адну кветачку купі, а не цэлы букет ды яшчэ з прыбраннем. Важны ёсць сімвал, а не наедак ці колькасць кветак у букеце!

Але вось бульбы дагэтуль не збіраў... Валялася яна як свет светам. Не выпадала. А мо і схіляцца не аплочвалася. Але цяпер...

* * *

Заходні менталітэт уваходзіць памалу ў наша жыццё, у нашу свядомасць. Гарантуе ён нам дабрабыт на доўгія гады.

**АДА ЧАЧУГА**

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Вершы Віктара Шведа

*Дачушцы Натальцы прысвячаю*

### ДВА ГАДЫ

Век Наталькі малады -
Два гады, два гады.
Мы лічылі дні-дзянёчкі
І чакалі двух гадочкаў,
Каб сустрэць хутчэй
Доні Юбілей.
Век Наталькі малады -
Два гады, два гады.
Надыйшла нарэшце дата
Нашае Натальні свята,
Селі ўсе наўкол,
За святочны стол.
Век Натальні малады -
Два гады, два гады.
Віншавалі Юбілярку,
Даравалі ёй падаркі,
Было шмат гасцей,
Стрэлі Юбілей.





### Я БАБКА ВЕРКА!

Хустку бабулі
Любіць Наталля.
Просіць матулю,
Каб ёй завязала.
У хустцы ў люстэрка
Яна заглядае:
- А я - бабка Верка,
Ды толькі малая!

### ЗМЯНІЛАСЯ

Я ў лясочку з Валяй
І з малой Наталляй.
У мінулым годзе
Я сюды прыходзіў,
З рук маёй жанчыны
Еў не раз маліны.
А цяпер малая
Ягадкі з'ядае
З рук сваёй матулі.
А татульку - дуля?!

### НАТАЛЛЯ СМОКЧА ПАЛЕЦ

Нашая Наталля
Смокча, смокча палец.
Стаўся ўжо ён плоскі!..
Ды не хоча соскі
Доня аніколькі.
Безупынку толькі
Нашая Наталля
Смокча, смокча палец.

### ХАДЖУ Я Ў ШКОЛУ

У яслі змалку
У гэтым годзе
Наша Наталка
Рупліва ходзіць.
Мае малая
Настой вясёлы
І паўтарае:
- Хаджу я ў школу!



## МАЕ КАНІКУЛЫ

Я летнія канікулы правяла ў свае бабулі ў вёсцы Катлы. У цёплыя дні мы хадзілі на рэчку купацца. Вечарамі я дапамагала бабулі прыганяць каровы з пашы. Аднойчы я паехала з татам на рыбалку. Я спала, а тата лавіў рыбу. Калі я раніцай прачнулася, вельмі перапужалася: на траве ляжаў вялізны вусаты сом. Паклалі мы яго ў сетку і павезлі дадому, пусцілі ў ванну. На другі дзень мы беднага сома з'елі...

Канікулы правяла я прыемна і весела. Ёсць аб чым успамінаць!

**ПАЎЛІНА МАЦЕЮК,**
школа ў Бельску

## У ШКОЛЕ Ў ЛЯЎКОВЕ

Зараз у прыгожым будынку школы ў Старым Ляўкове (Нараўчанская гміна) вучыцца 163 дзяцей беларускай і польскай нацыянальнасцяў. Беларускую мову вывучаюць амаль усе. Вялікая ў тым заслуга настаўнікаў, якія стараюцца як найшырэй падключыць сваіх выхаванкаў да беларускага жыцця. Разбуджаюць яны зацікаўленне і цікавай казкай або апавяданнем, і прыгожай меладычнай беларускай песняй, і заахвочваннем да ўдзелу ў выступленнях на сцэне з п'есамі.

Апрача таго, для прыкладу, настаўніца Крыстына Аніскевіч штотыдзень прыносіць у шосты клас "Ніву". Вучні чытаюць на ўроках "Зорку", а ў ёй між іншым, вершы Віктара Шведа, апавяданні пра звяркоў і птушак, пісьмы вучняў з іншых школ у рэдакцыю. Ёсць ахвотныя прыняць удзел у новым "Зорчыным" конкурсе п.з. "Нашы настаўнікі беларускай мовы". Настаўніца прыпамінае вучням, калі па радыё можна паслухаць беларускія перадачы, у тым ліку праграму рэдактар Яніны Чэрнякевіч "Для школы і для дому".

Пра цікавыя здарэнні ў жыцці ляўкоўскай школы вучні напішуць у "Зорку". Іх часта наведвае Янка Целушэцкі, які тут меў аўтарскую сустрэчу, чытаў свае творы і адказваў на шматлікія пытанні. Аўтар "Імгненняў" вучыўся ў школе ў Ляўкове і тут працаваў настаўнікам польскай і беларускай моваў.

У старалляўкоўскай школе вучні любяць спорт. Заняткі па фізкультуры вядзе двух настаўнікаў. Маюць яны вялікі вопыт у падрыхтоўцы вучняў да спартыўных спаборніцтваў школаў перш за ўсё ў такіх галінах, як лёгкая атлетыка, футбол і настольны тэніс.

**ЯСЕНЬ**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ДАМАВІК

Аднойчы мышка Пік-Пік адпачывала пасля вячэры. Канапа з Татавай пантофлі была такая ўтульная, мышка пачала драмаць, калі раптам у сцяне нешта зашкраблося.

- Няўжо зноў пацук? - абурылася Пік-Пік і прыўзнялася.

А са сцяны раптам выйшаў маленькі шэры чалавечак у зялёным капелюшы і бліскучых галёшах, прымацаваных вяровачкамі да ног у белых шкарпэтках. Незвычайная істота гучна заперхала і па-гаспадарску пачала аглядаць мышчыну хату.

- Ты хто? - шэптам запыталася спалоханая мышка.

- Я - гаспадар! - адказаў чалавечак у зялёным капелюшыку. - А вось што ты робіш у маім доме? Давай, ідзі адсюль, я буду тут жыць.

Ад такога нахабства ў мышкі і страх прайшоў. Яна ўскочыла з канапы і замахала лапкамі:

- Ах ты кучмель стары! Знайшоўся гаспадар на чужую хату! Гэць адсюль, а то капялюх да галёшаў насуну!

Госць рассмяяўся:

- Што ты мне зробіш, жывёліна! Я - Дамавік, і ўсё, што ў гэтым доме, належыць мне, і ты, і твая норка. У кватэры, дзе я жыў, людзі пачалі рамонт, фарбамі насмярдзелі, таму я сюды перабіраюся - так што давай, давай!..

І Дамавік лёгенька папхнуў мышку да выхаду з норкі. Бедная Пік-Пік, як пушынка, вылецела з норкі і плюхнулася на падлогу.

Не, сілай тут нічога не зробіш. І мышка вырашыла дзейнічаць інакш. Яна асцярожна зайшла ў норку і ўсміхнулася захопніку, які разлёгся на яе канапе:

- Вельмішаноўны Дамавік! Я нічога не маю супроць вашага гаспадарства, дазвольце толькі апошні раз пачаставаць вас гарбатай з цукеркамі...

Дамавік падумаў і паблажліва кіўнуў галавой. Мышка кінулася ў сваю скарбніцу, дастала лепшыя цукеркі, свежае малінавае варэнне, арэшкі, і хутка яны з Дамавіком сядзелі за лялечным сталом і ласаваліся. А Пік-Пік расказвала і расказвала Дамавіку пра свае прыгоды: пра тое, як яна пякла торт, як ела кавун, пра выставу прыгажосці і Маміну касметыку, пра Тату-лекара і пра дні нараджэння, пра Новы год і бананы на бярозе, пра пана Абадрана і Мікі-Мауса...

Дамавік ад цікавасці нават жаваць забываўся. Доўга сядзелі мышка і яе слухач, але нарэшце ўся гарбата была выпітая, а цукеркі з'едзеныя. Тады Дамавік сказаў:

- Шаноўная Пік-Пік, трэба прызнацца, жыццё ў мяне сумнае, шэрае, усё па цёмных кутках. Пагаварыць няма з кім. А вы так цікава жывяце, так весела - мне такое і не снілася... Не буду ж я вас выганяць - у мяне такіх норак яшчэ многа, а дазвольце мне прыходзіць да вас у госці на гарбату, і слухаць пра ўсё, што з вамі будзе адбывацца.

Мышка Пік-Пік, канечне, з радасцю згадзілася, і Дамавік прайшоў праз сцяну і знік, памахаўшы на развітанне рукой.

Вось так у мышкі Пік-Пік з'явіўся яшчэ адзін незвычайны сябар.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



# ДЗЯДЫ

Як мудра рабілі нашы продкі, калі ў асвечаныя традыцыяй дні, якія насілі назву Дзяды, маглі спыніцца, задумацца, хто ты, для чаго жывеш, адчуць, што ты не чужы на гэтай зямлі, бо ў цябе ёсць родныя магілы, куды можна і трэба прыйсці, у цябе ёсць дзеці, унукі, якія зробяць тое ж самае пасля тваёй смерці. Агульныя памінкі ў Беларусі, пры вялікай разнастайнасці мясцовых варыянтаў, праводзіліся ў асноўным у кожную пару года: вясной - радаўніца, "наўскі вялікдзень", летам - траецкія дзяды, восенню - змітраўскія дзяды, асяніны, зімой - маслянічныя дзяды. У заходніх раёнах Беларусі памінкі былі два разы ў год: вясной і восенню - у дзень Усіх святых, задушны дзень, што было звязана з уплывам каталіцтва. Вясной і летам памінкі адбываліся на могілках. Кожная сям'я напярэдадні прыбірала магілы сваіх родных і блізкіх, высаджвала кветкі.

Восеньскія і зімовыя дзяды кожная сям'я адзначала ў сваёх хаце. Да іх рыхтаваліся як да вялікага свята: прыбіралі хату, двор, гаспадарчыя пабудовы, гаспадыня гатавала разнастайныя стравы, у тым ліку і найбольш любімыя нябожчыкамі. Уся сям'я к вечару збіралася разам, усе апраналі святочнае адзенне, за сталом панавала ўрачыстая абстаноўка. Гаспадар ці гаспадыня, памаліўшыся, запрашалі нябожчыкаў за стол, прычым не толькі сваіх блізкіх, але і тых, каму няма куды падацца ў гэты дзень: "Святыя дзяды! Завём вас, хадзіце да нас. Ёсць тут усё, што Бог даў, чым толькі хата багата. Просім вас - ляціце да нас!" Гаспадар запальваў свечку. Вячэра пачыналася са спецыяльнай абрадавай стравы-кануна, куцці. Частку страў у асобным посудзе ці непасрэдна на стале пакідалі для дзядоў. На ноч стол не прыбіралі, а толькі накрывалі чыстым абрусам. На Палессі частку памінальных страў выкідалі ў азёры, рэкі. Дзеці і падлеткі, якія прысутнічалі на памінках, засвойвалі традыцыйныя звычаі і абрады свайго народа, адчувалі прыналежнасць да пэўнага роду, сям'і, грамады.

ТАЦЦЯНА КУХАРОНАК

# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## БЕРКУТ

Беркут адносіцца да сямейства арліных і з'яўляецца самай буйной птушкай сярод іх. Даўжыня цела - да 95 сантыметраў, маса - да 6,5 кілаграма. Крылы вузкія, размах іх - да двух метраў. Самкі беркутаў звычайна буйнейшыя за самцоў. Апярэнне цёмна-бурае або крыху святлейшае, з дамешкам залацістарыжаватага колеру. Жыве беркут у лясных, горных і пустынных раёнах Еўропы, Паўночнай Афрыкі, Азіі, Паўночнай Амерыкі. На Беларусі беркут - вельмі рэдкі від. У Віцебскай вобласці гняздзіцца каля 15 пар гэтых птушак, а ў Белавежскай пушчы жыве толькі адна пара.

Пары беркуты ўтвараюць на ўсё жыццё. Гнёзды будуюць з галля на высокіх дрэвах або скалах, вялікія, да трох метраў у дыяметры і да двух - вышынёй. Жывуць у іх па некалькі год запар. Яйкі самка пачынае адкладваць у сярэдзіне сакавіка, каля 40 дзён іх выседжвае, а ў канцы красавіка пачынаюць вылупліваццa птушаняты.

Харчуюцца беркуты буйнымі птушкамі - глушцамі, гусямі, а таксама зайцамі, куніцамі, маладымі цялятамі аленяў, казулямі. Іншы раз кормяцца дробнымі звяркамі - мышамі, палёўкамі, вавёркамі.

А. КУРСКОЎ



## ВОСЕНЬ

Набліжалася восень да нас
Ціхутка.
Уцякала лета ад восені
Хутка.
Пагубляла, ўцякаючы, лета
Уборы.
А яны - у амшарах, у пушчы,
Як зоры.
Як чырвоныя зоры, каліна,
Брусніцы.
У іх пра новае лета надзея
Ільсніцца.

УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

## АСВОІЎ

Сяргей застаў
Маленькага Мікіту
За вывучэннем
Алфавіту.
-Усе знаеш літары,
Што на стале?
Той у адказ
Ківае галавой:
- Але.
- Якая ж гэта? -
Сярожка тыцнуў
Наўздагад.
- А гэта круглая, -
Сказаў малодшы
Брат.

УЛАДЗІМІР МАЦВЕЕНКА

## МАТЫЛЬКІ СУПРАЦЬ КАЖАНОЎ

Здавалася б, насякомым няма ратунку ад іх адвечнага ворага - кажана, узброенага выдатным ультрагукавым лакатарам.

Як правіла, так яно і ёсць. Але ва ўсякага правіла ёсць выключэнні. Напрыклад, матылькі з сямействаў накцюід і геаметрыд валодаюць выдатным слыхам: іх вушы ўспрымаюць ультрагукавыя крыкі кажаноў. Пры набліжэнні драпежніка матылькі складваюць крылы і каменем падаюць на зямлю. Метад вельмі эфектыўны: кажан у большасці выпадкаў прамахваецца. А матылькі з сямейства арктыд у пошуках мер аховы пайшлі яшчэ далей. У іх талент асаблівага роду: пачуўшы кажана, арктыды пачынаюць самі выдаваць ультрагукавыя крыкі. Аглушаны перашкодамі кажан поўнасцю губляе арыентацыю, а матылькі выратоўваюцца ўцёкамі. Як відаць, у паветры ідзе сапраўдная "ультрагукавая" вайна.

1. Жыў калісь у нашай зямлі князь Радар, які спярша кавалём быў, а пасля яго ж выбралі ў князі.
Князь Радар

2. змей Крагавей
вельмі страшны
кароль Лях
А ў ляцкай старане жыў змей кароль Лях, у якога быў змей Крагавей.

3. Панадзіўся змей у нашу старану хадзіць.
Не з'ем - дык пакусаю!
Ратуйце!

4. Думаў-думаў Радар: што рабіць?

мал. Л. Шніп · 92

5. Зрабіў ён грамадную саху з дуба, а пасля сам давай камяні цягаць ды вежу муравадь. Замураваўся ў каменнай вежы, заперся на жалезныя дзверы, а дружыну схаваў пры сабе.

6. Прыляцеў змей.
—Пралізнеш дзверы, я табе сам сяду на язык, ты мяне з'ясі - тады рабі што хочаш у маёй старане...
Добра!!

7. Жалезныя дзверы
Радар
Ой-ай! Я больш не буду
...Згадзіўся змей. І ён раз лізнуў, другі, і праліза жалезныя дзверы. Тады Радар цапель за язык клешчамі. А дружына ўпрагла змея ў саху. Запрасіў змей міра.
-Добра, - кажа Радар. - А каб назаўсёды ведаць дзе чыё, то валачы саху, праведзем граніцу!

8. ...І вось аралі яны луг, аралі поле, і дааралісь да вялікай ракі...
Наша зямля
Ляцкая зямля
разора

9. ...Тут Радар крыкнуў: —Гайда, Бух!
Ма-ма!
Буль-буль!
Змей скочыў з прыгорка, ледзь не ўтапіўся.
...Рад змей, што жыць застаўся, пыліць, не азірнуўшыся, аж дамоў, да караля Ляха.

10. Як убачыў свайго караля змей, то яшчэ з страху тым залёк крычыць яму: Помні, Ляша, па Бух наша!
...З тых часоў тая разора, якую празвалі Бухам або Бугам, сталася граніцай паміж нашым і ляшскім краем.
...А вежа стаіць у мясцовасці, Каменцом званай.

Па народнай легендзе „Векавечная мяжа"

По народнай легендзе „ВЕКАВЕЧНАЯ МЯЖА". Малявала Людміла Шніп.

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашавыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4034. Гмінная ўправа ў Чыжах | - 2.000.000 зл |
| 4035. Сцяпан Багацэвіч /Бydгашч/ | - 30.000 зл |
| 4036. Віктар Бура /Гайнаўка/ | - 40.000 зл |
| 4037. Аркадзь Самойлік /Беласток/ | - 50.000 зл |
| 4038. Праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы | - 1.000.000 зл |
| 4039. Уладзімір Асіпюк /Чыжыкі/ | - 100.000 зл |
| 4040. Уладзімір Баўтрамюк /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |
| 4041. Антаніна Баўтрамюк /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |
| 4042. Лявон Пліс /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |
| 4043. Мар'я Чурак /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |
| 4044. Мікалай Баўтрамюк /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |
| 4045. Сяргей Кучко /Махнатае/ | - 10.000 зл |
| 4046. Ян Яцко /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |
| 4047. Ірына Міранкевіч /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |
| 4048. Вітальд Ажахоўскі /Гайнаўка/ | - 10.000 зл |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.




## НАЗВАЦЬ РЭЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Беларусізацыя ўрэшце выходзіць за межы чарговых дэкларацый Саюза пісьменнікаў Беларусі або падобных арганізацый і ўстаноў, у такой самай ступені аддаленых ад рэальнага жыцця ў рэспубліцы. Доказы гэтаму можам знайсці і на нашым рынку. Першыя ластаўкі беларускасці з'явіліся разам з гарэлкай. „Пшанічную", „Белавежскую горкую настойку", „Зуброўку", „Белую Русь" (неафіцыйна — „дэпутацкую") — гатункі з поўнасцю беларускамоўнымі наклейкамі — куплялася не без гонару за Беларусь і яе прадукцыю, але, без асаблівай надзеі пабачыць іншыя тавары з беларускімі этыкеткамі.

І вось, такія тавары пачалі з'яўляцца. Гэта і ёсць самая сапраўдная беларусізацыя, бо ў сферы штодзённага ўжытку. Урэшце не толькі ідэі, але і рэчы пачынаюць называцца сваім сапраўдным імем.

ак

<u>Карысна для здароўя</u>

## ГОРЛА

Горла!.. Многія хварэюць на яго. Лёгка прастудзіцца, але вельмі цяжка вылечыцца. Шматлікія лекі не памагаюць. Прымаць антыбіётыкі гэта крайні выхад. Ізноў жа, не ўсе яны памагаюць. Мікраарганізмы паспелі ўжо вырабіць супраць гэтых лекаў нейкі імунітэт.

Хваробам горла садзейнічаюць: прамёрзлы ногі, абутак, які прапускае вільготнасць, халоднае надвор'е, хаджэнне басанож па падлозе. Калі ў пакоі халаднавата, трэба або накрыць ноччу ногі, або спаць у шкарпэтках.

На горла часта хварэюць настаўнікі і святары. Усімі прызнана, што ў адносінах да настаўнікаў, хвароба вынікае з іх прафесіі. Многа яны гавораць ды разаграваюць горла. У класе маса мікраарганізмаў і шмат пылу, і ім трэба дыхаць. Нельга адразу пасля заняткаў ісці дамоў. У настаўніцкім пакоі трэба пасядзець яшчэ 50 хвілін і даць горлу астынуць. Ідучы куды-небудзь, не трэба спяшацца! На веласіпедзе трэба ехаць памалу. Вельмі важна, каб горла не перагравваць. На холадзе трэба яго добра ахутваць... Асцерагайцеся скразнякоў!

**ІНЖ. БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**

### МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Прычына захворвання**

У адной бальніцы ў французскім горадзе Марсель на таблічках, што вісяць над ложкам кожнага хворага, пішацца не толькі прозвішча і дыягназ, але і прычына захворвання. Нядаўна на адной з таблічак можна было прачытаць: „Генры Дзюваль, чатыры зламаныя рэбры, пацалунак за рулём пры хуткасці 100 кіламетраў у гадзіну".

**(а-ця)**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Мне прысніліся ў апошні час два дзіўныя сны. І ў адным, і ў другім упарта паяўляецца жонка майго калегі па рабоце. Але заўсёды яна выступае ў ролі... цыганкі. Бачу яе вельмі дакладна. Прыгожая яна. Сапраўды напамінае крыху цыганку, а тут, ведаю я, што яна напэўна цыганкай ёсць. Што гэта можа абазначаць?

Акрамя таго, прыснілася мне каўбаса. Ляжыць сабе вянок каўбасы на талерцы. Цёмная такая, сухенькая. Як бы „ядлоўцавая", ці што. Такой цяпер не ямо, адным словам. Раніцай дык проста слінка ў мяне цякла.

**Анеля**

Анеля! Першыя твае сны пра жонку калегі могуць абазначаць, што чакае цябе на рабоце нейкая няшчырасць, фальш. А ўсё ўказвае на тое, што спадзявацца гэтага ўсяго можаш ад калегі, жонка якога табе снілася. Не ведаю чаму, але цыганка, калі прысніцца, добрага не прадвяшчае.

Што датычыцца другога сну, дык, мілая Анелька, і мне каўбаска часцей сніцца. І слінка таксама ў мяне цячэ. Можа ў наступным годзе будзе лепш.

**АСТРОН**




## ПЛОЎ З БАРАНІНЫ З ЯБЛЫКАМІ

На 1/2 — 3/4 кг бараніны без касцей трэба ўзяць 40 дэкаў цыбулі, 2 лыжкі шмальцу ці масла, 1 шклянку рысу, 30 дэкаў яблыкаў, 4 зубкі часнаку, соль, перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Бараніну памыць, абсушыць, парэзаць на порцыі. Цыбулю абабраць, спаласнуць, дробна нарэзаць, пасыпаць соллю. Падрыхтаванае мяса падсмажыць на разагрэтым тлушчы. Дадаць цыбулю і яшчэ хвіліну смажыць. Мяса пасаліць, пасыпаць перцам, пералажыць разам з цыбуляй у каструльку, даліць шклянку гарачай вады, накрыць каструльку і тушыць на невялікім агні.

Яблыкі памыць, абабраць, парэзаць на часцінкі. Калі мяса ўжо будзе амаль мяккае, дадаць да яго яблыкі. Калі трэба, у часе тушэння даліваць ваду.

Перабраць рыс, памыць яго і адцадзіць, укінуць у вялікую колькасць гарачай пасоленай вады, зварыць, адцадзіць. Тады палажыць рыс у каструльку, дадаць растопленага тлушч, перамяшаць, накрыць каструльку, уставіць у гарачую духоўку.

Да стушанага мяса дадаць расцерты часнок, соль і перац. Соус уліць у соусніцу, рыс пералажыць у вялікую талерку, на яго палажыць мяса, пасыпаць пятрушкай.

Падаюць гэту страву гарачай, да яе можна дадаць салату.

**ГАСПАДЫНЯ**

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1/ рэлігійная ўстрыманасць, 3/ драпежнік, які смуродзіць, 6/ у руцэ фехтавальшчыка, 9/ птушка ў гербе, 11/ не адзін першага красавіка, 12/ кіруючы орган установы, 13/ выгнаны з раю, 15/ пад ім рыюцца дзікі, 18/ далёкі ад Рыма, 20/ кошт тавару, 21/ забеспячэнне бяспекі, 22/ пранізлівы гук, 24/ верхняя канечнасць, 26/ горад, у якім знаходзіцца дзяржава, 29/ сухі корм, 30/ моцная, скручаная вяроўка, 33/ вечна рыецца ў зямлі, 34/ калючае пустазелле, 35/ толькі раз пасыпалася з неба, 36/ не сапрана, 37/ від агароджы.

**Уніз:** 1/ бядзе не паможа, 2/ безгустоўна любуецца модай, 4/ Божы дом, 5/ раўнамерна паўтараецца, 7/ пачатак „новага" са „старога", 8/ цвёрдае дрэва, 10/ ад яго залежыць высакосны год, 11/ у „дзяцінстве" ёсць прачом, 14/ месца вучобы, 16/ абставіны, патрабаванні, правілы, 17/ вепр, 19/ цяпер патрэбны дазвол, каб яго пасеяць, 20/ Пётр I, 23/ усё навокал нас, 25/ скрынка спецыяльнага прызначэння, напрыклад, на галасы, 23/ цячэ ў берагах, 27/ меле, 28/ чорная з ласося, 29/ прыправа, як нота, 31/ упарты, 32/ не адзін злучаны ў Амерыцы.

ядань

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ ра разетку з 37 н-ра. Управа:** хадулі, хімера, харват, Хартум, Хатынь, хлопец, хрыпка, храпка.

**Улева:** хмарка, хадакі, хамула, хірург, Харкаў, хітрун, хросны, хрыбет.

**Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Аляксандр Дабчынскі** і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.







**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamowić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 

# МАКАТРАЗМЫ

### ЧАЛАВЕКАПАДОБНЫ

Быў Іван, сёння — Ян,
Па пародзе павіян;
А ўзніме бровы —
Сук яловы.

### ПОЛЮСНАЕ ПРЫЦЯГНЕННЕ

Цягнуўся на дыбачкі
Да цыбатай Рыбачкі.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Ого! Косця вось апрануўся як на Вялікдзень! — з насмешкай сказаў Іван.

— То ж сёння нядзеля, — адказаў Косця, — а ты ўсё ў гэтым цікавым адзенні і чобатах гумовых!

— А ведаеш, што гэта незвычайныя дрэліхі і чобаты. Я іх трымаю толькі на нядзелю, вялікае свята і дождж!

* * *

— Ці ведаеш, дзе ў Беластоку вуліца Халодная?

— Не ведаю.

— А адзень ты кажух з лісіным каўняром, то даведаешся.

* * *

— Шурык з Маняй развяліся. А ўсяму вінаваты дождж.

— Чаму?

— Маня дамовілася з суседам на сустрэчу ў абарозе. Якраз у той дзень пагоршылася надвор'е, пайшоў дождж. Прыйшлося сустрэцца ў клуні. Шурык якраз зайшоў узяць вілы і ўсё гэта ўбачыў. Нарабіў такога шуму, што цэлая вёска чула, і жонку прагнаў.

— Дзе ж яна цяпер?

— А ў суседа. Ён адзінокі быў.

* * *

— Чаму вы, бабуля, большае дзіця нясеце на руках, а малодшае ледзь паспявае за вамі?

— А гэтае, што нясу, даччынае, а тое малое — нявесткі. Няхай бяжыць, яно такое шустрае, як і яна.

**АЎРОРА**







Малюнак Я. Бусла.

## ЧАРГОВАЯ НАРАДА

Збіралася нарада працаўнікоў вёскі. Прыехалі кіраўнікі саўгасаў і калгасаў. Карацей, начальнікі з намеснікамі. Каля паўсотні назбіралася, „Казлы", „Нівы" ўсю плошчу заставілі. А вось фермераў не было. Іх у раёне аж тры чалавекі ўжо абтаварылася. Пэўна, часу няма. Гэта ж калгас і без начальніка працуе, а ферма без гаспадара — ні кроку.

Сабраліся ў зале пасяджэнняў. Старшыня сельгасупраўлення ўладкаваўся на сцэне за сталом:

— Усе на месцы?

— Сухапольскага няма! — крыкнулі знізу.

— Пачакаем. Яшчэ дзесяць хвілін ёсць.

Прысутныя трымаліся па-сямейнаму, віталіся, гутарылі паміж сабою, жартавалі. Ведалі адзін аднаго як свае пяць пальцаў. Пасады ж займалі дзесяцігоддзямі. Іншы раз толькі перасядалі, скажам, з „Новага быту" ў „Новы шлях".

Да пачатку нарады старшыня праўлення цікавіўся справамі ў гаспадарках. Калі дайшла чарга да сіласа, з'явіўся Сухапольскі, старшыня калгаса імя Анкі-кулямётчыцы.

— А ты колькі заклаў? — не далі яму агледзецца.

— Сто пяцьдзесят.

— Чаму так мала?

— Дык жа нарада, ну, і закусі добрай не было!

— Не пра тое гаворка! Мы пра сілас!

— А-а-а... З сіласам — парадак!

— Сядай Сухапольскі! — Старшыня ўзняўся, абапёрся рукамі аб стол. — Гэта ўсё драбяза, цякучка! Таварышы! — голас яго набыў урачыстасць. — Сёння мы павінны неадкладна абмеркаваць нашы партыйныя справы, бо яны куды важней за сілас, малако і мяса! Калі мы гэтага не зробім, партыя нам не даруе!

— Якая партыя? — здзівіўся нехта.

— Ты што, забыўся, у якой партыі знаходзішся?

— Дык жа дзейнасць яе прыпынена!

— Вось якраз таму. Прыпыніліся, перадыхнулі — і досыць! Як кажуць, наш дэвіз цяпер: з акопаў — і наперад! Дазвольце наш сход лічыць...

— Але ж гэта супрацьзаконна! — крыкнуў нехта.

— Сход у нас закрыты, беспартыйных няма, фермераў не запрашалі. А калі выпадкова хто даведаецца, дык закон, гэта значыцца пракурор, у нас хто? Член бюро райкама! Яшчэ пытанні ёсць?

— Дык не толькі гэта! Знойдзецца разумнік, у газету накрэмзае!

— І хай яго!.. А хто надрукуе? Рэдактар таксама член бюро!

— Таварыш! — пачуўся голас ад акна. — Давайце лепей пра сілас. Сюды ідзе старшыня райсавета!

— Ну дык што? Гэта ж былы сакратар райкама! Учора ён сам праводзіў нараду кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў раёна, а заўтра будзе выклікаць дырэктараў і завучаў школ. Да таго ж, яго мы хочам прапаноўваць дэлегатам на партыйную канферэнцыю ў вобласць. Але хопіць адхіляцца ад галоўнага! Будзем працаваць, таварышы!

І чарговая нарада пачала работу.

**І. ВАН** („*Вожык*")

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Дама прыходзіць у клініку, гарантуючую пахудзенне.

— Муж зрабіў мне цудоўны падарунак, але я не магу ў яго ўлезці.

— Мадам, мы вам абяцалі, што пасля нашай дыэты вы ўжо праз месяц зможаце надзець вашу новую сукенку.

— Тут гаворка не аб сукенцы, а аб самаходзе!

* * *

Размова на акіянскім лайнеры:

—А раптам мы пацерпім караблекрушэнне? Вы ўмееце плаваць?

— Не. Але я ўмею клікаць на дапамогу на шасці мовах.

* * *

Вярнуўшыся дадому пад раніцу, непапраўны гуляка сіньёр Манчэлі пачуў, як яго жонка гаворыць па тэлефоне.

— Зброевы магазін? Прышліце мне рэвальвер калібру 6,35. На чыё імя? На імя ўдавы Манчэлі.

Падборку зрабіў

**ЯСЕНЬ**

## ЦІ МОЖНА РАССМЯШЫЦЬ ГОСПАДА?

Не ведаю, ці вы звярнулі ўвагу, як першага кастрычніка ў сярэдзіне даждждавой навальніцы раптоўна паяснела неба і загрымела. Гэта рассмяяўся Нябесны Бацька над шасцідзесяцішасцігадовым дурнем, які прачнуўшыся раніцай пачаў у Яго прасіць розуму. Бог смяяўся, а дурань толькі цяпер зразумеў гэтую анамалію надвор'я і пачаў маліцца за сваё здароўе.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**






Даражэнькае Сэрцайка! Ты ў апошні час даеш рады, як пазнаць па мужу, ці здраджвае жонцы, як праверыць яго. А я табе скажу па шчырасці, што я дык выйшла за такога шалапута, што ты яго хоць правярай, хоць не правярай, і так па чужых бабах усё жыццё лётаў.

Адзін сябра мой дык нават раіў, каб садзіла яго пасля кожнай камандзіроўкі ў ванну. Калі „штосьці" усплыве, кажа, дык значыць — было ў бабы. Калі не ўсплывае, бо цяжкое — дык так і ведай, будзе рвацца, кажа, да цябе.

А я ўжо на ўсё рукою махнула. Мужа цэлае жыццё трымалася, бо ж, ведаеш, дзеці. Ды і куды я б з імі пайшла? Падыйшла да справы пафіласофску. Думаю: што я буду на сабе валасы рваць. Трэба рабіць так, як ён. І не скажу, каб было мне сорамна за свае ўчынкі. Кожны раз, калі нешта ў маім жыцці здаралася, я думала з сатысфакцыяй, што ўдаю яму доўг. А муж, загледжаны на маладзенькіх дзяўчат, нават не заўважаў гэтага. Мне, аднак, у такіх выпадках было лягчэй перажываць яго здрады.

Каханне памалу прыгасала. Ён рабіў (у сексуальных справах) сваё, а я — сваё. Мы сталі жыць, уласна кажучы, толькі для дзяцей. Але быў супольны дом, супольныя клопаты пра парадак, пра кухню. Гэта нас яднала.

З часам я пачала глядзець на „подзвігі" майго мужа (ён вельмі ганарыўся тым, што меў поспех у жанчын) з іроніяй і спакоем. Мы пражылі ўжо разам дваццаць гадоў і сёння мне проста хочацца смяяцца, калі мой муж выбіраецца на спатканне. А ведаю гэта беспамылкова.

Сэрцайка, сорамна мне ў гэтым прызнавацца, але толькі тады, чую гэта, ён пачынае дакладна мыцца, чысціцца, нават улазіць у ванну. Божа, калісь купаўся кожны дзень, прынамсі прымаў душ, а сёння нармальна яго ў ванну не загоніш, толькі кашулі чыстыя давай!

Але калі ўжо нешта свеціцца ў яго на гарызонце, дык не лянуецца. Быў такі месяц, што купаўся амаль штодзённа. Ну, думаю, нешта цікавае злавіў. А пасля зноў пару месяцаў хадзіў недамыты.

Смешнае гэта і сумнае. Аднак, я ўжо да гэтага прывыкла і нават мала рэагую на ўсё. Шкада толькі чыстай пасцелі і кашуляў на бруднае цела...

Хрысціна

Хрысціна! Ты занадта моцна не смейся! Бо смяецца (пэўна, табе вядома) той, хто смяецца апошні. А ён, хоць мыецца рэдка, то ў час такога месячнага сеанса можа і закахацца не на жарты. А што такое дваццаць гадоў супольнага жыцця? Бывае, што і праз трыццаць разыходзяцца. Дзяцей пажэняць, замуж павыдаюць — і зноў вольныя птушкі.

Раю заганяць яго часцей у ванну і ўсё ж... часамі прытуляцца. Няхай ведае, што ў хаце мае не толькі дзяцей і страву. Калі лянуецца ўлезці ў ванну, дык мо пачне ленавацца лезці і да дзяўчат.

**СЭРЦАЙКА**

 